ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 41 (2620)
ПЯТНІЦА
13
кастрычніка 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

ЗБІРАЮЦЦА буслы ў вырай. Бывай, лета, дзень добры, восень!

Праедзеш сёння па вясковых дарогах, і душу поўніць шчымлівае пачуццё— ад гэтых сцішаных палеткаў, дзе яшчэ нядаўна красавала жыта, і дзе зараз толькі жаўцеюць шатры саламяных сціртаў, ад медных пятакоў, што так шчодра (ох, як шчодра!) рассыпаны пад прыдарожнымі бярозамі, ад блакітнага неба, дзе, колькі ні ўглядайся, не ўбачыш жаўрука...

Але ёсць у восені і прыкметы, якія так цешаць сэрца. Гэта горы янтарнага збожжа на таках, россып ядранай бульбы, яблыні, што гнуцца пад цяжарам крамяных пладоў...

Восень дорыць нам усё, чым багата зямля. І не выпадкова Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі, які ў мінулую нядзелю адзначыла ўся краіна, прыпадае на пачатак кастрычніка, калі можна падвесці рахунак шматцяжкай працы селяніна.

У гэты дзень у калгасныя і саўгасныя клубы прыйшлі людзі, якім ёсць чым ганарыцца. Іх клопатам, іх стараннем Беларусь наша стала краем высокіх ураджаяў, высокаразвітай жывёлагадоўлі.

Сярод лепшых з лепшых, аднавяскоўцы назвалі і Мікалая Іванавіча Данцова, камуніста, звеннявога па вырошчванні бульбы ў саўгасе «Ціхінічы» Рагачоўскага раёна. Яго вы бачыце на нашым здымку.



Фота Ул. КАШКАНА.



**50 ГОД УТВАРЭННЯ СССР**

# НА БЕРАГАХ ДЗЯСНЫ

*ТЫДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ НА ЧАРНІГАЎШЧЫНЕ*

**«Далёкая прыгажуня мая. Шчаслівы я, што нарадзіўся на тваім беразе, што піў у незабыўныя гады тваю мяккую, вясёлую, сівую ваду, хадзіў босым па тваіх казачных астравах...» — так сказаў сусветна вядомы пісьменнік і кінадраматург, філосаф і вучоны Аляксандр Даўжэнка пра цудоўную красуню — раку Дзясну. З 24 па 30 верасня на берагах гэтай ракі, у старажытным і вечна маладым горадзе Чарнігаве і ў яго вобласці праходзіў Тыдзень беларускай літаратуры, прысвечаны 50-годдзю СССР. Па запрашэнні працоўных Чарнігаўшчыны прыехалі сюды прадстаўнікі Беларусі — паэты Станіслаў Шушкевіч, Рыгор Няхай, Фёдар Чэрня, Казімір Камейша, аспірант Гомельскага дзяржаўнага універсітэта малады паэт Віктар Ярац.**

Ва ўрачыстасцях прымалі ўдзел пісьменнікі з Кіева Алекса Юшчанка. Алесь Жолдак, Абрам Кацнельсон, Леанід Горлач, са Львова — Раман Іванычук, з Чарнігава — Кузьма Журба, Станіслаў Рэп'ях, Пятро Пулінец.

Сакратар абкома партыі Аляксандр Дзерыколенка прыняў гасцей з Беларусі і Украіны і меў з імі гутарку.

Госці ўсклалі кветкі на магілу Невядомага салдата, пазнаёміліся з гістарычнымі мясцінамі горада.

25 верасня беларускія пісьменнікі разам са сваімі ўкраінскімі калегамі раз'ехаліся па гарадах Чарнігаўшчыны. У Прылуках, Ічні, Мені, Шчорсе, Срыбным, Борзні, Бахмачы, Корапе, Сосніцы, Карукаўцы і іншых гарадах, а таксама ў калгасах і саўгасах адбыліся масавыя літаратурныя вечары.

Незабыўным застанецца ў памяці гасцей наведанне мемарыяльнага музея героя грамадзянскай вайны, выдатнага палкаводца Мікалая Шчорса. Як гістарычны помнік захоўваецца невялічкая хата з саламянаю страхою ў Сосніцы, у якой нарадзіўся Аляксандр Даўжэнка. У Чарнігаўскім літаратурна-мемарыяльным музеі Міхайлы Кацюбінскага беларускія літаратары пакінулі запісы ў кнізе наведвальнікаў.

Ва ўсіх чарнігаўскіх гарадах і сёлах гасцей сустракалі кветкамі, хлебам-соллю, цёплымі прывітаннямі. Літаратурныя вечары былі шматлюдныя. Наладжваліся выстаўкі кніг беларускіх пісьменнікаў як у арыгіналах, так і ў перакладах на рускую і ўкраінскую мовы.

30 верасня ў Чарнігаве, у Палацы культуры капронавага завода адбыўся заключны развітальны вечар. Свае вершы чыталі ўкраінскія і беларускія пісьменнікі. Са словам падзякі за гасціннасць выступіў Станіслаў Шушкевіч. Рыгор Няхай, які ў дні Вялікай Айчыннай вайны партызаніў на Чарнігаўшчыне, перадаў на гэтым вечары краязнаўчаму музею газету-плакат, выдадзеную трыццаць гадоў назад.

Сакратар абкома партыі А. Дзерыколенка расказаў пра братнія сувязі Чарнігаўшчыны з Браншчынай і Гомельшчынай, гаварыў пра вялікую папулярнасць на Украіне твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа, Петруся Броўкі і Івана Мележа, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Івана Шамякіна.

У час Тыдня беларускай літаратуры абласныя газеты «Деснянська правда» і «Комсомольский гарт» друкавалі творы беларускіх пісьменнікаў у перакладах на ўкраінскую мову.

# БРАТЭРСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Віцебская вобласць суседнічае з Пскоўскай. На самай мяжы паміж імі — Гарадоцкі і Невельскі раёны. Спрадвеку разам людзі будуюць тут новыя дамы, вырошчваюць хлеб, запрашаюць адзін аднаго на святы.

Шмат святочных сустрэч працаўнікоў гэтых раёнаў адбылося і сёлета. Адна з іх была прысвечана тэме «Мы моцныя ленінскай дружбай». Гасцей з Невельскага раёна гарадоцкія працаўнікі сустрэлі музыкай, букетамі кветак, светлымі ўсмешкамі. Беларусы прывезлі і ўручылі невельцам прыгаршчы зямлі з Кургана партызанскай славы, беларускую бульбу і малады дубок. Яго адразу пасадзілі і цяпер ён расце, як сімвал непарыўнай дружбы двух народаў. П. Сусалка, сакратар Гарадоцкага райкома КПБ, расказваў, як працаўнікі раёна працуюць у юбілейным годзе, як мацнее дружба і ўзаемадапамога гаспадарак. Са словам у адказ выступіў намеснік старшыні Невельскага райвыканкома В. Макараў.

Талачынскі раён не мае агульнай мяжы з раёнамі брацкіх рэспублік. Але дружба, як вядома, не ведае межаў. У жніўні на вечар інтэрнацыянальнай дружбы сюды былі запрошаны працоўныя Вялікалукскага раёна Пскоўскай вобласці, Пачынкаўскага раёна Смаленскай вобласці і Анікшайскага раёна з Латвіі. Хлебам-соллю сустрэлі талачынцы гасцей.

На сустрэчы выступіў сакратар Пачынкаўскага райкома партыі В. Тарасенкаў, сакратар Анікшайскага райкома партыі В. Баркаўскене, сакратар Вялікалукскага райкома КПСС Н. Святлова. Аб братніх сувязях і сацыялістычным спаборніцтве працаўнікоў Талачына гаварыў намеснік старшыні райвыканкома А. Ішукоў. Першы сакратар Талачынскага райкома КПБ М. Цітоў сардэчна падзякаваў ад імя працоўных раёна прадстаўнікам братніх рэспублік за ўдзел у гэтай сустрэчы. І, як заведзена, адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці.

Такія сустрэчы на Віцебшчыне адбыліся і ў іншых раёнах.

У эстафету карысных клубных спраў уключаюцца ўсё новыя актывісты. У Бешанковіцкім раёне такая эстафета ідзе пад дэвізам «Нам дружба народаў навекі дадзена», у Лепельскім — «Мы славім Радзіму сваю», у Глыбоцкім — «Пяю маю Айчыну». Кожная эстафета ўключае ў сябе расказ аб тым, як выконваюцца сацыялістычныя абавязацельствы, фотаальбомы з запісамі аб карысных справах культработнікаў, абменныя канцэрты мастацкай самадзейнасці.

**М. ШМАТКОЎ,**
намеснік начальніка Упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкома.



## ГАВОРКА ПРА ЛІТАРАТУРНЫЯ СУВЯЗІ

Два дні ў Львоўскім універсітэце імя Івана Франко адбывалася Другая навуковая канферэнцыя па вывучэнні беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей, прысвечаная 50-годдзю ўтварэння СССР. Удзельнікі яе заслухалі каля 30 дакладаў і паведамленняў.

Цікавым было выступленне доктара філалагічных навук, прафесара Гомельскага універсітэта П. Ахрыменкі «Гістарычная абумоўленасць і значэнне ўкраінска-беларускіх літаратурных узаемасувязей».

**Р. РОДЧАНКА,**
удзельнік канферэнцыі.

## ТУРНІР ТРОХ АБЛАСЦЕЙ

**На Гомельскім тэлебачанні сёмы раз прагучалі позвы міжабласнога маладзёжнага турніра. Сёмы раз сустрэліся каманды трох абласцей: Бранскай, Чарнігаўскай і Гомельскай. На конкурсную перадачу з'ехаліся ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, вакальныя, вакальна - інструментальныя, танцавальныя калектывы.**

**На тэлевізійнай пляцоўцы ішло ўпартае спаборніцтва. Адна каманда змяняла другую. Першае месца журы прысудзіла камандзе Бранскай вобласці, другое заняла каманда Гомельскай вобласці, трэцяе—Чарнігаўскай.**

**На здымку — старшы рэдактар маладзёжных перадач Гомельскай студыі тэлебачання Вікторыя Калчунова вітае ўдзельнікаў конкурсу.**

**Віктар ЗЯЛЁНКА.**
Фота аўтара.

## «СЛАВА МАСКВЕ!»

Пад такім дэвізам у Чыгуначным раёне Гомеля адбылося свята Маскоўскай вуліцы, арганізаванае раённым камітэтам партыі, райсаветам, Палацам культуры чыгуначнікаў імя Леніна і раённым аддзелам таварыства «Веды».

Маляўніча выглядала вуліца-«імянінніца». На дамах луналі сцягі СССР і Беларускай рэспублікі. На падаконніках палалі букеты жывых кветак.

К вечару ля дома № 45 сабраліся жыхары і шматлікія госці Маскоўскай вуліцы на сваё свята, прысвечанае 50-годдзю СССР і працоўнай юбілейнай вахце ў гонар сталіцы нашай Радзімы — Масквы. Свята адкрыў кароткім дакладам аб гісторыі вуліцы, працоўных поспехах яе жыхароў і аб сталіцы СССР старшыня Чыгуначнага райсавета г. Гомеля Уладзімір Дзмітрыевіч Кузьмін. Старшыня вулічнага камітэта Зоя Васільеўна Жалезнякова расказала пра лепшых людзей Маскоўскай вуліцы. Ганаровы чыгуначнік І. Ліфшыц падзяліўся ўспамінамі аб удзеле ў абароне Масквы ў незабыўным, цяжкім 1941 годзе.

**М. ГАТОЎКІН.**

## *У ГОСЦІ ДА СУСЕДЗЯЎ*

Цесная дружба звязвае рабочых Мінскага прыборабудаўнічага завода імя Ул. І. Леніна і іх літоўскіх калег з аб'яднання «Эльфа».

Напярэдадні 50-годдзя ўтварэння СССР кантакты суседзяў сталі яшчэ больш цеснымі. Нядаўна літоўцы гасцілі ў сваіх беларускіх калег. У заводскім клубе адбыўся ўрачысты вечар, які праходзіў пад лозунгам «У сям'і адзінай». Прадстаўнікі прадпрыемстваў абмяняліся памятнымі падарункамі.

**В. ТОРМАСАЎ.**

# ХАЙ ПРЫГАЖЭЕ РОДНЫ ГОРАД

*У МАСТАКОЎ ГРОДНА*

Невялікі кабінет. Два пісьмовыя сталы. Рулоны з чарцяжамі розных праектаў. Макеты.

Часу на інтэрв'ю ў галоўнага архітэктара Гродна Васіля Васільевіча Бажко і галоўнага мастака горада Леаніда Якаўлевіча Додзіка небагата. Сюды, да іх, быццам у штаб, увесь час прыходзяць і звоняць людзі — з аб'ектаў: інжынеры, прарабы, мастакі... І пра многае, што зроблена і робіцца ў горадзе да 50-годдзя ўтварэння СССР будаўнікамі, архітэктарамі, мастакамі, даведваешся менавіта тут.

Гарвыканком вынес рашэнне аб паднаўленні і рэканструкцыі фасадаў дамоў і помнікаў архітэктуры. Клапоцяцца гродзенцы і аб тым, каб новыя забудовы як мага арганічней упісваліся ў архітэктуру мінулых стагоддзяў, і аб тым, каб пры рэканструкцыі старой часткі горада ўнутраная аддзелка інтэр'ераў адпавядала архітэктурнаму абліччу памяшканняў.

Распачата рэканструкцыя доміка-музея Элізы Ажэшка на вуліцы яе імя. У юбілейныя дні павінна быць скончана стварэнне юбілейнага сквера па вуліцы М. Горкага — з басейнам, разарыем і дэкаратыўнай скульптураю.

Спраектаваны і пачынаюць будавацца новыя ўезды ў горад. Кожны мае «сваю тэму», свой архітэктурна-мастацкі вобраз. Над праектамі новых уездаў працавалі мясцовыя мастакі і архітэктары.

Завяршаецца прыбудова да Дома афіцэраў па вуліцы Акадэмічнай з глядзельнаю залаю на 800 месц. Будуецца першы ў горадзе басейн. Завершана будаўніцтва вялізнага Палаца хімікаў з залаю на 800 месц, з комплексам спартыўных збудаванняў, танцавальнымі заламі, памяшканнямі для заняткаў гурткоў, з лекцыйнаю залаю... Дэкаратыўна-афармленчыя работы ў палацы выконваюць гродзенскія мастакі.

Да новага навучальнага года ў горадзе здадзена ў эксплуатацыю школа на 1200 месц у мікрараёне «Форты-2». Літаральна днямі адкрыўся новы, забяспечаны найноўшым кухонным абсталяваннем цэнтр грамадскага харчавання з вялікаю банкетнаю залаю-рэстаранам, дыэтычнай сталоўкай, кафэ, магазінам-кулінарыі. Усе памяшканні абстаўлены зручнаю мэбляю, якая адпавядае агульнаму стылю памяшканняў. У дэкаратыўным аздабленні залаў скарыстаны традыцыйныя для Беларусі матэрыялы — дрэва, метал. Пабудаваны па тыпавым праекце, цэнтр тым не менш набыў своеасаблівы, індывідуальны всблік. У адным з цэнтральных залаў знаходзіцца вялікае пано «Гродна — мой горад». Выканана яно ў тэхніцы «маркетры» і спалучае дзве тэмы: Гродна сённяшні — з яго трубамі, заводскімі канструкцыямі, мікрараёнамі і Гродна мінулага — з яго помнікамі архітэктуры... А над усім гэтым складаным светам старадаўняга і маладога горада — неба, сонца!.. Спецыяльныя канструктыўныя перагародкі ва ўсіх залах цэнтра, якія аддзяляюць залы ад кухні, выкананы як дэкаратыўныя шчыты. Праекты афармлення інтэр'ераў распрацавалі гродзенскія мастакі Я. Вільчко, І. Мешчанінаў, А. Клемянкоў, А. Волкаў.

Горад рыхтуецца да свята...

Дэкаратыўнымі пано будуць упрыгожаны да свята тарцы новых дамоў у мікрараёнах. Тэме 50-годдзя СССР пры[illegible]ецца афармленне плошчы і[illegible] Леніна. Прывакзальная пло[illegible]рмляецца на тэму «Дружба народаў СССР».

У такой складанай рабоце, як афармленне горада, дробязяў няма. Прадумваецца сістэма светлавога аздаблення, шчыты для афіш. Нямала клопатаў звязана з павышэннем мастацкага ўзроўню афармлення саміх афіш, вітрын магазінаў, лавак у парках, асвятляльных ліхтароў, кніжных кіёскаў, латкоў для марожанага... І ўсе гэтыя пераўтварэнні падначалены адзінай задачы: стварыць як мага больш арганічны гарадскі ансамбль.

Амаль у кожнай майстэрні жывапісцаў, скульптараў, графікаў горада на мальбертах — новыя работы. Праўда, большасць з іх пакуль што хаваецца «ад староннягa вока». Трэба яшчэ і яшчэ папрацаваць, перш чым новыя творы трапяць на абласную і рэспубліканскую выстаўкі.

Скульптара Валянціну Галубкіну я застала за работай. Уся свабодная прастора яе майстэрні застаўлена планшэтамі. Разам з архітэктарам К. Асадавым яна працуе над праектам помніка Уладзіміру Ільічу Леніну для калгаса імя У. І. Леніна Свіслацкага раёна. Скульптар і архітэктар заклапочаны зараз тым, каб дабіцца арганічнай сувязі помніка з асяроддзем. Актыўна шукаецца дакладнае, адзіна магчымае месца для помніка.

Адначасова Валянціна Галубкіна працуе над партрэтамі.

— Літаральна не ведаю, якому з іх аддаць перавагу, каб завяршыць да выстаўкі, — кажа яна. — Усе задумы мне аднолькава блізкія і дарагія...

Валянціна здымае вільготнае палатно з адной работы... «Партрэт пажарніка». Просты, шчыры хлопец, менш за ўсё падобны на «бога агню». Ніякіх касак, кірак і іншых аксесуараў прафесіі. Характар, вытрымка, воля, прыгажосць, упэўненасць і спакой — вось што імкнецца перадаць мастачка.

— Хочацца дасягнуць не толькі знешняга падабенства, хочацца стварыць псіхалагічна дакладны вобраз сучасніка...

Віктара Даненкава мы ведаем па шматлікіх скульптурных партрэтах, па яго чаканцы, па розных дэкаратыўных работах. У гэтыя дні разам са скульптарам В. Пятраевым і архітэктарам К. Асадавым Віктар завяршае работу над макетам помніка скідэльскім камсамольцам — удзельнікам антыфашысцкага падполля гадоў Вялікай Айчыннай вайны.

...Лента з барэльефамі васьмі юна-

# ВЯСЁЛЫЯ І ДАСЦІПНЫЯ

*УСЕСАЮЗНЫ АГЛЯД ТВОРЧАСЦІ МАСАВІКОЎ-КУЛЬТАРГАНІЗАТАРАЎ*

ЗДАЕЦЦА, сама маладосць запаланіла ў гэтыя дні Палац культуры прафсаюзаў. З розных куткоў краіны ў Мінск з'ехаліся арганізатары адпачынку працоўных, каб прыняць удзел ва ўсесаюзным аглядзе творчасці масавікоў-культарганізатараў.

Сярод 400 яго ўдзельнікаў — старэйшы артыст-масавік Масканцэрта, лаўрэат I усесаюзнага конкурсу Я. Горскі і школьніца з Таліна Эві Валгесаар, артыст-масавік Ленінградскага музычна-эстраднага аб'яднання, дыпламант II усесаюзнага конкурсу масавікоў М. Гумерт і работнік культуры з літоўскага горада Алітус І. Забалене... «Зоркі» і дэбютанты з аднолькавым запалам і захапленнем удзельнічаюць у творчым спаборніцтве «майстроў адпачынку і весялосці».

250 тэматычных праграм падрыхтавалі ўдзельнікі гэтага агляду. «Ад Масквы да самых да ўскраін», «Белая ноч над родным Ленінградам», «У нас на Джайлау», «Пружанскія сувеніры», «Уральскія самацветы», «На зямлі маёй Арлоўскай», «Салдат — заўжды салдат», «Першыя касмічныя старты», — так называюцца праграмы іх танцавальных, спартыўных, іграўых выступленняў, прысвечаныя 50-годдзю СССР.

Арганізатары агляду — Міністэрства культуры СССР, ЦК ВЛКСМ, Цэнтральны савет упраўлення курортамі ВЦСПС і Цэнтральны савет па турызме і экскурсіях — вызначылі яго канкрэтныя задачы: паляпшэнне культурнага абслугоўвання і арганізацыі адпачынку насельніцтва, павышэнне ідэйна - мастацкага ўзроўню творчасці масавікоў, выяўленне маладых, таленавітых майстроў сваёй справы.

9 кастрычніка адбылося ўрачыстае адкрыццё ўсесаюзнага агляду масавікоў-культарганізатараў. З уступным словам выступіла начальнік Упраўлення культурна-асветных устаноў Міністэрства культуры СССР Л. Данілава. Гасцей віталі намеснік старшыні выканкома Мінскага гарсавета М. Жукоўскі і старшыня судзейскай калегіі агляду — кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Ю. Семяняка.

А пасля слова атрымалі госці. У вясёлым тэатралізаваным прадстаўленні прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх братніх рэспублік Савецкага Саюза. Вечар закончыўся канцэртам майстроў беларускага мастацтва.



Выступаюць госці з Казахстана.

Карэспандэнт газеты «Літаратура і мастацтва» папрасіў Лідзію Аляксееўну Данілаву больш падрабязна расказаць пра гэты форум «майстроў добрага настрою і адпачынку». Вось што яна расказала:

— Гэтай заключнай сустрэчы папярэднічалі спаборніцтвы ў раёнах і гарадах, рэспубліках, абласцях і краях нашай небсяжнай Радзімы.

Сталіца Беларусі гасцінна прымае самых вясёлых і дасціпных арганізатараў культурнага адпачынку насельніцтва. Прыемна, што сярод іх нямала і сельскіх работнікаў культуры. У краіне працуе звыш 10 тысяч масавікоў-прафесіяналаў і не злічыць, колькі тысяч людзей займаецца гэтай справай на грамадскіх пачатках.

Трэба ўлічыць, што з ростам культурнага ўзроўню насельніцтва ўзрастаюць і патрабаванні да арганізатараў адпачынку. Абавязак работнікаў культуры несці працаўнікам горада і вёскі радасць, бадзёры настрой, дапамагаць партыі выхоўваць актыўных будаўнікоў камуністычнага грамадства, садзейнічаць пашырэнню іх кругагляду.

Знамянальна і тое, што мы сабраліся ў год залатога юбілею нашай дзяржавы, яе слаўнага 50-годдзя. Дружба, братэрства яднае народы Краіны Саветаў. І кожная праграма, з якой мы знаёмімся на аглядзе, самабытная па задуме і выраашэнні, расказвае пра поспехі братніх народаў.

Сёння судзейская калегія аб'явіць імёны пераможцаў агляду, адбудзецца заключны паказ іх праграм. Не ўсе атрымаюць прызавыя месцы. Але важна тое, што агляд паспрыяў шырокаму абмену вопытам і выявіў лепшых майстроў «добрага настрою», звярнуў на работу масавіка ўвагу мясцовых партыйных, савецкіх, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый.

---

коў-герояў — асноўная частка помніка. А над барэльефамі — сцяг... Гэтую работу аўтары прысвячаюць 50-годдзю ўтварэння СССР.

У жывапісцаў і графікаў пасля паездак, з якіх прывезена шмат эцюдаў, накідаў, у майстэрнях пануе рабочая атмасфера.

Міхаіл Антонавіч Плужнік — адзін са старэйшых мастакоў Гродна — улюбёны ў родны горад, у маляўнічы Нёманскі край. У новых работах мастаку ўдалося, трансфармуючы эцюдныя матывы, знайсці выразнасць і глыбіню вобразаў прыроды («Азёрны край», «Ускраіна», «Тут Руссю пахне...»).

— Задумана серыя карцін «Гродна», — расказвае Міхаіл Антонавіч.— Наш горад — рамантычны. Хочацца, каб глядач адчуў сэрцам гэтую рамантычнасць...

У апошніх работах Івана Васільевіча Пушкова (іх мноства ў майстэрні), як і раней, — то мяккія па каларыце веснавыя пейзажы, то пякучая, вострая мядзяна-жоўтая восень, то амаль адчувальныя на дотык цяжкія гронкі бэзу... Пушкову ўласціва гаварыць пра ўсё падрабязна, нічога не ўпускаючы. Вось і ў карціне «Горад над Нёманам», якую мастак рыхтуе да выстаўкі, прысвечанай 50-годдзю ўтварэння СССР, ён застаецца верны сабе, хаця ў апошні час шукае новыя сродкі выяўлення задумы. Актыўна абагульняючы свае натурныя ўражанні, ён імкнецца жывапісны элемент зрабіць асноўным у пошуках цэласнага мастацкага вобраза.

Вельмі своеасабліва працуе жывапісец Канстанцін Пятроў. Ужо ў графічных работах мінулых гадоў ён імкнуўся раскрыць вобраз Гродна індустрыяльнага. Рамантыка канструкцый гродзенскіх заводаў-фабрык — яго тэма. Пра чалавека мастак імкнецца гаварыць, паказваючы плён працы і абставін працы. «Рэзервуары», «Цэментны завод», «ТЭЦ»... Складаныя прамысловыя арганізмы XX стагоддзя!.. Пятроў не канкрэтызуе матыў, пакідае на палатне толькі самыя вялікія масы заводскай архітэктуры — стварае сімфонію працы...

І зноў інакшае Гродна — у мастачкі Люсі Налівайка.

...Недзе ў цэнтры Сусвету, у віры колераў і ліній — праменнае сонца і птушкі!.. А там — унізе, на цёплай Зямлі, — старая Каложа і хімзавод!.. Перад намі—быццам дыван, сатканы з хвалістых дэкаратыўных колераў вясёлкі, дзе формы, перацякаючы адна ў адну, нараджаюць вось гэту, святочную фантазію!..

Незвычайнасцю рашэння актывізуецца думка, пачуццё гледача, яго здольнасць успрымаць прыгажосць свету.

Рыхтуецца да юбілейнай выстаўкі і шырока вядомы сваімі на дзіва напеўнымі, музыкальнымі гравюрамі Аляксандр Захараў. Яго новыя графічныя лісты-роздумы звязаны з Нёманскім шклозаводам. Пакуль што, да выстаўкі, мастак рыхтуе толькі адзін ліст. Але, як ён сам кажа, хутчэй за ўсё гэты роздум выльецца ў серыю лістоў...

ГРОДНА І ГРОДЗЕНШЧЫНА сёння і ўчора... Гэтая тэма — вядучая амаль ва ўсіх гродзенскіх мастакоў. І вельмі радуе, што кожны з іх адкрывае нам яшчэ адну грань паэтычнага Нёманскага краю, унутранай прыгажосці людзей, якія тут жывуць і працуюць.

**Браніслава ЛОБАН,**
спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».

---

# ТУТ ДРЭВА ВУЧАЦЬ СПЯВАЦЬ

**РЭПАРТАЖ З БАРЫСАЎСКАЙ ФАБРЫКІ ПІЯНІНА**

У АДНЫМ з павільёнаў ВДНГ СССР цэлы дзень гучыць музыка. Сярод сабраных тут музычных інструментаў — прыгожае, са светлага дрэва піяніна з маркай «Беларусь-6», адно з першых у краіне, удастоенае знака якасці.

У цэхах Барысаўскай фабрыкі піяніна імя 50-годдзя Кампартыі Беларусі нараджаецца гэты цудоўны гарманічны інструмент. 105 дзён пройдзе з моманту, калі сюды завязуць «піламатэрыял», і да таго, як настройшчык прабяжыць пальцамі па клавішах.

Гэта шматдзённае па-



Валянціна Матавілава—адна з лепшых настройшчыц фабрыкі...

дарожжа праходзіць праз цэхі, дзе сушаць, распілоўваюць і апрацоўваюць дрэва. Праз цэхі, дзе падганяюць струннае «адзенне» і ўстанаўліваюць механіку. Канчаецца яно ў невялічкім пакойчыку, дзе новы інструмент застанецца сам-насам з настройшчыкам.

Перш чым паставіць асабісты подпіс (а самыя вопытныя маюць нават асабістае кляймо), настройшчык падганяе кожную струну па камертоне, робіць больш мяккім або больш жорсткім гучанне кожнага малаточка. І слухае, слухае... Бясконца. Бо ад яго залежыць, наколькі чыста, высакародна будзе гучаць інструмент.

Зразумела, дабіцца гэтага можа толькі чалавек з точкім музычным слыхам.

— І вельмі моцнымі нервамі, — сказала Валянціна Матавілава — адна з лепшых настройшчыц фабрыкі. — Бо за змену так «наслухаешся», што марыш аб цішыні.

— Каб добра настроіць піяніна, трэба самому быць у добрым настроі. Таму нават самая дакладная ЭВМ не здолее замяніць настройшчыка,—дадаў Анатоль Смолін. Абодва любяць музыку. Валя вучыцца іграць на акардэоне, Анатоль — завочнік музычнага вучылішча.

Сярод настройшчыкаў ёсць і людзі сталага веку, якія працуюць тут яшчэ з даваеннага часу. Не, гэта не музыканты. Але яны валодаюць той тонкай інтуіцыяй, якая даецца вялізным вопытам і — безумоўна — прыроджаным слыхам. Бадай, таму на фабрыцы працуюць сямейныя дынастыі настройшчыкаў Бяляевых, Баршаёў.

□

— Чалавека, які спявае басам, нельга навучыць спяваць тэнарам.— З гэтых слоў пачаў расказ аб тым, як нараджаецца піяніна, майстар участка фабрыкі Б. Прохараў. — Так і з музычным інструментам. Настройшчык, як настаўнік, можа «навучыць» спяваць. Але «голас» інструмента закладзены ў самім матэрыяле. Каб піяніна загаварыла «сваім голасам», неабходна так званая незаменная рэзанансавая елка. Гэта вельмі рэдкае і каштоўнае дрэва. На Барысаўскую фабрыку яе прывозяць з Карэліі.

Тут, на фабрыцы, гэты рэдкі матэрыял трапляе ў цэх, які можна параўнаць, бадай, з ювелірным. І не толькі з-за каштоўнасці матэрыялу. Але і па дакладнасці працы тых, хто тут працуе. На рэзанансавым участку сушыльнага цэха з тоненькіх — накшталт школьнага пенала— яловых рэек склейваюць рэзанансавы шчыт—дэку. Кожная рэйка ў ім можа заняць толькі сваё адпаведнае месца, бо падбіраецца па гадавых слаях стогадовага дрэва, якія рэзаніруюць гук пэўнай частаты.

Майстар « на вока» павінен падабраць усю гаму гукаў — ад дыскантавай да басовай часткі. А дакладней, не толькі на вока, а і па інтуіцыі, той, што побач з творчасцю.

Менавіта так, творча, працуе брыгада сталяроў І. Гламбоцкага — вядомага рацыяналізатара, зачынальніка прагрэсіўных метадаў працы — рухавага чалавека са светлай усмешкай.

□

Некалькі гадоў назад на фабрыцы пачалі рабіць цымбалы. Яны нараджаюцца ў невялічкім пакойчыку, дзе гаспадарыць адзін чалавек — цвікоўшчык У. Істамінок. Цвікоўшчык — першы настройшчык струн. Ён павінен мець музычны слых і точкае чуццё. Уладзімір Уладзіміравіч да таго ж — заўзяты цымбаліст - самавучка. Ён «кіруе» ўсім працэсам — ад прыладкі струн да настройкі цымбалаў. Тэхналогія вытворчасці іх распрацавана з удзелам вядучых музыкантаў рэспублікі.

Вось яшчэ адзін цэх. І хоць яго прадукцыя не такая ўжо адказная і сур'ёзная, але таксама патрэбная і цікавая. Цікава назіраць, як пад рукой настройшчыка некалькі паліраваных дошчачак ператвараюцца ў дзіцячы ксілафон, на якім тут жа можна сыграць нескладаную мелодыю, напрыклад, «Перапёлачку».

□

— Наша фабрыка выпускае таксама сувеніры, — гаворыць сакра-



Цэх цвікоўкі. Тут падганяецца струннае «адзенне» піяніна.

тар партыйнага бюро В. Іншакоў. — Драўляныя грыбкі, сальнічкі, перачніцы, падстаўкі, сталовыя наборы. Усяго трыццаць назваў на мільён рублёў у год. Як бачыце, не дробязь. Уся гадавая прадукцыя фабрыкі —19 тысяч піяніна. Сёлета выпусцім на 265 піяніна больш. Гэта наш падарунак да 50-годдзя ўтварэння Савецкага Саюза.

У любым кутку краіны сёння можна ўбачыць барысаўскае піяніна. Ідуць яны і за мяжу, у прыватнасці, у Балгарыю і Югаславію. На Украіне купляюць беларускія цымбалы. А 12 краін свету купляюць дзіцячы ксілафон, на якім стаіць марка Барысаўскай фабрыкі.

**Р. БАКУНОВІЧ.**



Шмат на фабрыцы аматараў музыкі. Ёсць і свой аркестр цымбалістаў.

Фота Ул. КРУКА.

# МЫ З ТАБОЙ, ГЕРАІЧНЫ В'ЕТНАМ!

**ЗАЯВА ДЗЕЯЧОЎ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ — АКТЫВІСТАЎ САВЕЦКАГА ФОНДУ МІРУ**

**Кіруючыя колы Злучаных Штатаў Амерыкі працягваюць самую ганебную агрэсіўную разбуральную вайну супраць народаў В'етнама, Лаоса і Камбоджы. Дзень і ноч учыняюцца зверскія злачынствы амерыканскіх імперыялістаў на зямлі В'етнама. Агрэсары і іх марыянеткі выкарыстоўваюць супраць в'етнамскіх патрыётаў напалм, фосфар, атрутныя рэчывы, новыя віды смертаноснай зброі. Імі забіты сотні тысяч мірных жыхароў, ператвораны ў руіны цэлыя гарады і вёскі. Авіяцыя ЗША працягвае свае жорсткія бамбардзіроўкі тэрыторыі Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам, падвяргае разбурэнню населеныя пункты, прадпрыемствы, жылыя дамы, бальніцы, школы, шляхі зносін, плаціны, дамбы і іншыя ірыгацыйныя збудаванні з мэтай выклікаць у краіне паводкі, знішчэнне пасеваў, голад, новыя чалавечыя ахвяры.**

**Злачынныя дзеянні амерыканскіх агрэсараў выклікаюць гнеўны пратэст і рашучае асуджэнне ўсіх сумленных людзей.**

**Працоўным Беларусі, на зямлі якой у агні мінулай вайны ад рук фашысцкіх катаў загінулі мільёны людзей, згарэлі тысячы сёл і вёсак, дзесяткі гарадоў, асабліва зразумелыя пакуты ахвяр амерыканскай агрэсіі. Рабочыя, калгаснікі, інтэлігенцыя нашай рэспублікі з напружанай увагай сочаць за гераічнай барацьбой народа В'етнама супраць агрэсіі ЗША, рашуча асуджаюць злачынствы амерыканскай ваеншчыны. Кіруючыся ленінскімі прынцыпамі пралетарскага інтэрнацыяналізму, яны цалкам і поўнасцю падтрымліваюць мерапрыемствы Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада па аказанні гераічнаму В'етнаму ўсебаковай дапамогі і падтрымкі.**

**Пасільны ўклад у справу дапамогі брацкаму в'етнамскаму народу ўносяць і працоўныя нашай рэспублікі. На зямлі В'етнама працуюць аўтамашыны, трактары, станкі і механізмы, выробленыя на заводах Беларусі. Датэрмінова і добраякасна выконваюцца заказы для гераічнага В'етнама. У навучальных установах, на прамысловых прадпрыемствах вучацца юнакі і дзяўчаты В'етнама.**

**Імкнучыся прыняць актыўны асабісты ўдзел у высакароднай справе аказання дапамогі ахвярам амерыканскай агрэсіі, калектывы прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў і ўстаноў, камсамольскія арганізацыі, дзеячы навукі і культуры, асобныя грамадзяне ўносяць калектыўныя і індывідуальныя грашовыя ўзносы ў Савецкі фонд міру, сродкі якога ідуць на дапамогу мужным народам.**

**Рост добраахвотных паступленняў у фонд міру ад грамадзян нашай рэспублікі сведчыць аб іх глыбокай зацікаўленасці ў захаванні міру, аб брацкай салідарнасці з народамі, якія змагаюцца за сваю справядлівую справу.**

**Узносы ў фонд міру—гэта асабісты ўдзел кожнага ў сумесных дзеяннях у падтрымку барацьбы народаў В'етнама і ўсяго Індакітая за іх свабоду і незалежнасць.**

**Мы заклікаем усіх грамадзян Беларусі актыўным удзелам у папаўненні фонду міру садзейнічаць поспеху справядлівай справы в'етнамскага народа — барацьбе за свабоду і незалежнасць.**

**Наша падтрымка гераічнай барацьбы в'етнамскага народа нязменная— мы з вамі, в'етнамскія браты!**

МЕЛЕЖ І. П.—народны пісьменнік Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі, старшыня Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру.
АЗГУР З. І. — народны мастак Беларусі, правадзейны член Акадэміі мастацтваў СССР, старшыня Беларускай рэспубліканскай камісіі садзейнічання Савецкаму фонду міру.
АЛЕКСАНДРОЎСКАЯ Л. П. — народная артыстка СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.
БРОЎКА П. У. — Герой Сацыялістычнай Працы, народны паэт Беларусі, акадэмік Акадэміі навук БССР, лаўрэат Ленінскай прэміі.
БЕМБЕЛЬ А. А.—народны мастак Беларусі.
ВАГНЕР Г. М. — кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.
УЛАСАЎ Ю. І. — заслужаны артыст БССР.
ГРАМЫКА В. А. — мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.
КЛІМАВА А. І.—народная артыстка СССР.
КРАПІВА К. К. (Атраховіч)—народны пісьменнік Беларусі, віцэ-прэзідэнт АН БССР.
МАКСІМ ТАНК (Скурко Я. І.)—народны паэт Беларусі, акадэмік Акадэміі навук БССР.
ЦІТОВІЧ Г. І.—народны артыст СССР.
ШЫРМА Р. Р. — кампазітар, народны артыст СССР.

# *Пісьменнікі В'етнама ў Мінску*

Мінскі вакзал. Цёплыя сяброўскія поціскі рук, усмешкі, кветкі, прывітанні... Яны гучалі не толькі на рускай і беларускай мовах, але і на мове краіны, да якой звернуты сімпатыі ўсіх прагрэсіўных людзей свету — гераічнага В'етнама. 11 кастрычніка ў Мінск прыехалі літаратары ДРВ Суан Зіеу, Даан Зіой, Дао Ву. Іх сустракалі намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР А. Грачанікаў, галоўны рэдактар часопіса «Неман» А. Макаёнак, пісьменнік, генерал-маёр у адстаўцы М. Аляксееў, пісьменнікі Л. Прокша, М. Гамолка, А. Рыбак.

У той жа дзень в'етнамскія госці азнаёміліся з выдатнымі мясцінамі Мінска, агледзелі помнік Янку Купалу, наведалі Дом-музей Янкі Купалы і Дом-музей І з'езда РСДРП. Вечарам у Таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі яны сустрэліся з актывістамі Беларускага аддзялення Таварыства савецка-в'етнамскай дружбы.

Пісьменнікі Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам прабудуць у Беларусі пяць дзён. Яны наведаюць памятныя мясціны нашай рэспублікі, музеі. Іх калегі па пяру — беларускія пісьменнікі раскажуць аб развіцці сучаснай беларускай літаратуры, аб яе ўзаемасувязях з літаратурамі брацкіх народаў.

БЕЛТА.



На здымку—в'етнамскія пісьменнікі Суан Зіеу, Даан Зіой і Дао Ву.
Фота Ул. КРУКА.




Жэня ЯНІШЧЫЦ



## СЛАВАЦКІ СНЕГ

Памяці Змітрака Астапенкі.

Чарнела чорная дарога.
А горы — неба не відаць!
Яшчэ не ведаў снег нічога,
Калі збіраўся выпадаць.

Але пагоня і трывога
Цясней збіраліся вакол.
Яшчэ не бачыў снег нічога,
Калі спакойна лёг на дол...

. . . . . . . . . . . . .

А на душы задума спела
І пракладала з ночы след,
Калі на белы снег нясмела
Хіснуўся ранены паэт.

І, быццам снег, страфа сляпіла
З паўнематы, з паўнебыцця.
О, як жа слову не хапіла
Змагання, вернасці, жыцця!

## МАЭСТРА

Дзядзьку Міхасю.

Я знаю: волю гартавалі
І не цярпелі горкіх слёз,
І ноччу думалі, не спалі
(О, не пра свой!) — пра песні лёс.

Ды ці ў жыцці не наракалі,
Не сумавалі Вы, калі
Не адкахаўшы — адкахалі.
І толькі песняю жылі?!
І што Вы там ні гаварыце —
Я знаю, бачу па вачах,
Як васількі у спелым жыце
Нязгасна сняцца па начах.

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, СВЯТА МАСТАЦТВАЎ!

Па краіне крочыць Свята мастацтваў, прысвечанае 50-годдзю ўтварэння СССР. 15 кастрычніка яно перасягне межы Беларусі. На працягу месяца жыхарам гарадоў і вёсак рэспублікі будуць дэманстраваць сваё мастацтва сто лепшых калектываў і выканаўцаў Савецкага Саюза. Сярод іх—Дзяржаўны рускі хор пад кіраўніцтвам А. Свешнікава і Дзяржаўны ансамбль танца Малдаўскай ССР «Жок», дзяржаўныя ансамблі песні і танца Азербайджана і Мардовіі, Дзяржаўны акадэмічны хор Украінскай ССР імя Рыгора Вяроўкі. Аматараў мастацтва чакаюць таксама сустрэчы з Зарай Далуханавай, Аляксандрам Огніўцавым, Якавам Фліерам, Тамарай Мілашкінай, Эдуардам Хілем, з артыстамі з Арменіі, Грузіі і Казахстана.

Р. ДЗМІТРЫЕВА.

## ПРАЙШОЎ ТЫДЗЕНЬ...

□ У Глускай раённай бібліятэцы арганізавана кніжная выстаўка «Год 1972-гі —міжнародны год кнігі». Выстаўка мае некалькі раздзелаў: «Кнігі пісьменнікаў, адзначаныя прэміямі», «Кніга і чытач» і іншыя.

В. ЛАЎРЫНОВІЧ.

□ У Карагандзе адбыліся канцэрты скрыпача з Беларусі лаўрэата міжнародных конкурсаў Рамана Нодэля. Карагандзінскія гледачы па годнасці ацанілі высокае майстэрства скрыпача, віртуозную тэхніку яго ігры.

А. КІТАЕЎ.

□ «Прапагандуем кнігі братніх рэспублік» — так называлася выязная навукова-практычная канферэнцыя культасветработнікаў, што адбылася ў Старынкаўскім сельскім клубе Дзяржынскага раёна.

Л. КОЙПІШ.

□ Ва Усесаюзнай дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна адкрылася выстаўка «Паэзія пятнаццаці», прысвечаная 50-годдзю ўтварэння СССР. На ёй сабраны творы паэтаў усіх саюзных рэспублік. Значнае месца адведзена беларускай паэзіі. Тут экспануюцца кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова і іншых беларускіх паэтаў.

Э. БРОЙТМАН.

□ На абанементах чытачоў бібліятэкі Харкаўскага трактарнага завода запісана нямала кніг беларускіх пісьменнікаў.

У бібліятэцы адбыліся літаратурныя вечары, прысвечаныя творчасці Я. Купалы і А. Куляшова. Праведзена канферэнцыя па рамане І. Шамякіна «Сэрца на далоні».

Днямі ў заводскую бібліятэку прыслаў сваю кнігу «Подых навальніцы» лаўрэат Ленінскай прэміі І. Мележ.

К. СЕРГІЕНЯ.

□ У Баранавічах адбыўся Тыдзень народных тэатраўБрэсцкай вобласці. Гаспадары сцэны паказалі спектаклі «Прымакі» па п'есе Я. Купалы, «Мяшчане» па п'есе М. Горкага, народны тэатр клуба брэсцкіх чыгуначнікаў прывёз камедыю «Амністыя» па п'есе М. Матукоўскага, пінскія самадзейныя артысты паказалі купалаўскую «Паўлінку» і спектакль па п'есе А. Маўзона «Усяго адно жыццё». Артысты з Тэлехан пазнаёмілі гледачоў з п'есай І. Козела «Над хвалямі Серабранкі».

М. ДРОБЫШ.

# УДЗЕЛЬНІЧАЙЦЕ Ў КОНКУРСЕ!

Міністэрства культуры і Саюз пісьменнікаў БССР праводзяць конкурс на лепшыя шматактавыя і аднаактавыя п'есы, сцэнарыі, апавяданні, фельетоны для агітацыйна-мастацкіх брыгад на атэістычную тэму.

На конкурс прымаюцца творы, якія не ішлі на сцэнах, не друкаваліся, не перадаваліся па тэлебачанні і радыё.

*Творы падаюцца на конкурс на беларускай ці рускай мовах у двух экземплярах, надрукаваных на машынцы. Рукапісы дасылайце ў канвертах з указаннем імя і прозвішча аўтара, прафесіі, месца работы, хатняга адрасу.*

**Для пераможцаў конкурсу ўстаноўлены прэміі. За лепшую шматактавую п'есу: першая прэмія — 1000 рублёў, другая — 500 рублёў, дзве трэція—па 300 і дзве заахвочвальныя прэміі па 100 рублёў. За аднаактавую п'есу: першая прэмія — 500 рублёў, другая—300 рублёў, дзве трэціх па 200 рублёў і дзве заахвочвальныя па 75 рублёў. За сцэнарый для агітацыйна-мастацкіх брыгад: першая прэмія — 400 рублёў, другая — 250 рублёў, дзве трэція па 150 рублёў. За апавяданне: першая прэмія — 300 рублёў, другая—200 рублёў, дзве трэція па 150 рублёў. За фельетон: першая прэмія— 200 рублёў, другая — 150 рублёў, дзве трэція па 100 рублёў.**

*Рукапісы накіроўваць на адрас: Мінск, Дом урада, Міністэрства культуры БССР—з адзнакай: «Конкурс на атэістычную тэму».*

*Лепшыя творы будуць набыты Міністэрствам культуры БССР і надрукаваны ў перыядычных выданнях Саюза пісьменнікаў БССР. Рукапісы не вяртаюцца.*

*Конкурс працягнецца да лютага 1973 года.*

ЖУРНАЛІСТЫКА

# ДОБРАЕ СЛОВА ПРА ДОБРЫХ ЛЮДЗЕЙ

## ПРА НАРЫСЫ ЯНКІ СІПАКОВА

Тэарэтычна ўсе прызнаюць, што нарыс — перш за ўсё твор мастацтва, адзін з жанраў літаратуры. Практычна ж ледзь не кожная больш ці менш разгорнутая інфармацыя пра калгас, завод, школу і г. д. (асабліва ў абласных газетах) звычайна друкуецца пад рубрыкай «нарыс». Зразумела, што такія інфармацыі не маюць нічога агульнага з жанрам нарыса і ніяк не могуць спаборнічаць з тымі высокамастацкімі творамі, якія выйшлі з-пад пяра выдатных рускіх нарысістаў М. Кальцова, М. Шагінян, В. Авечкіна, Г. Траяпольскага, Я. Дораша і іншых.

У нас жа да апошняга часу не было сваіх нарысістаў, хоць і з'яўляліся час ад часу добрыя нарысы ў некаторых празаікаў і паэтаў. І толькі кніга «Ключы ад Сезама» прынесла яе аўтару Веры Палтаран шырокую вядомасць нарысіста. Досыць паспяхова спаборнічаюць з ёй В. Карамазаў («Руны мараны») і асабліва Я. Сіпакоў, аўтар кнігі нарысаў «Па зялёную маланку», пра якую і пойдзе гаворка.

Прымор'е, Шушанскае, сібірскія беларускія вёскі, Таймыр і, нарэшце, родная вёска аўтара Зубрэвічы на Аршаншчыне — тыя мясціны, пра якія расказваецца ў кнізе.

Для нарысаў Я. Сіпакова ўласцівы глыбокі лірызм, цікавасць аўтара да тых падзей і фактаў, якія ён імкнецца данесці да чытача. Напрыклад, Сіпакоў не толькі расказвае пра свае сённяшнія Зубрэвічы, але і раскрывае іх гісторыю, прычым на шырокім фоне грамадскага і палітычнага жыцця краіны, імкнецца зазірнуць у іх заўтрашні дзень.

Лірызм нарысаў Я. Сіпакова звязаны не толькі з тым, што ён умее шчыра і цёпла сказаць пра людзей, іх добрыя справы, чулае сэрца, светлы розум. Пісьменнік улюбёны ў сваю Радзіму, родную Беларусь, яе культуру, мову, звычаі. Пра які б куток зямлі ён ні пісаў, заўсёды ў думках параўноўвае гэты куток са сваёй радзімай. Таму, мабыць, не выпадкова Сіпакоў вырашыў і сам пазнаёміцца і пазнаёміць сваіх чытачоў з жыццём, побытам, мовай беларускіх вёсак, раскіданых па бяскрайніх прасторах Томскай вобласці і Краснаярскага краю.

Усхвалявана расказвае Сіпакоў пра тое, як некалі ў пошуках шчасця ехалі тысячы беларусаў у Сібір, як яны з цяжкасцю прыжываліся на чужой зямлі, як да гэтага часу захавалі свой уклад, свае звычаі, песні, мову. І цяпер часта дзе-небудзь на беразе Абі або Енісея чуецца мілагучная беларуская мова з вуснаў дзетвары, гучаць над сібірскімі прасторамі беларускія песні.

Сіпакоў не проста ўмее расказаць пра падзеі, факты, сустрэчы і гутаркі з новымі для яго людзьмі, а паказаць іх так, каб чытач убачыў усё, змог перад сваімі вачыма, узнавіць малюнкі прыроды, скажам, Далёкага Усходу або Таймыра. І, не быўшы ў тых мясцінах, дзе давялося пабываць Сіпакову, мы нібыта падарожнічаем з ім разам, сустракаемся і знаёмімся з цікавымі людзьмі, даведваемся пра розныя цікавыя эпізоды з іх жыцця.

Усе нарысы Сіпакова з кнігі «Па зялёную маланку» прасякнуты гуманістычным пафасам, верай у перамогу добрага над благім. Аўтар умее рэльефна паказаць звычайных, нічым не прыкметных людзей, іх працавітасць, руплівасць. Прыгадаем хоць бы, колькі цёплых, шчырых слоў сказаў пісьменнік пра сваю цётку Сашу, якая ў час вайны, кожны дзень рызыкуючы жыццём, не пакінула малых сірот, а ў галодныя пасляваенныя гады старалася з апошняга, каб пракарміць і апрануць іх. Цётка Саша ў кнізе Сіпакова — яскравы вобраз прыгожай душою, шчырай, спагадлівай беларускай жанчыны.

Часам Сіпакоў гаворыць пра чалавека адной ці дзвюма фразамі, а ён жыва паўстае перад намі са сваім характарам, схільнасцямі, тэмпераментам. А гэтую якасць яшчэ досыць рэдка сустрэнеш у нашых нарысістаў.

Высокая грамадзянскасць, лірызм, шчырасць, тонкі псіхалагізм робяць нарысы Сіпакова прыкметнай з'явай беларускай літаратуры апошняга дзесяцігоддзя. Можна смела сказаць, што ў нашу літаратуру прыйшоў таленавіты, вопытны нарысіст, які парадуе нас яшчэ не адной кнігай нарысаў. Прысуджэнне Янку Сіпакову Дзяржаўнай прэміі БССР у галіне журналістыкі было б прызнаннем яго творчай сталасці і майстэрства.

**Мікола ПРАШКОВІЧ.**

*ШТО ЧЫТАЦЬ ПРА НАРЫСЫ ЯНКІ СІПАКОВА*


**В. БЕЧЫК.** Блізкая далячынь. «Полымя», 1972, № 6.
**Я. ГЕРЦОВІЧ.** Магчымасці жанру. «Літаратура і мастацтва», 1 ліпеня 1969 г.
**М. ДОСІН.** Акно ў мінулае. «Беларусь», 1969, № 9.
**Я. КАРШУКОЎ.** Акно ў шырокі свет. «Літаратура і мастацтва», 10 верасня 1971 г.
**С. МАЙХРОВІЧ.** «Па зялёную маланку». «Настаўніцкая газета». 20 лістапада 1971 г.
**У. ПРАВАСУД.** Акно, расчыненае для людзей. «Звязда», 14 жніўня 1969 г.
**У. ЮРЭВІЧ.** Зямныя радасці і турботы. «Літаратура і мастацтва», 18 верасня 1970 г.


Літаратуразнаўца і крытык Дзмітрый Бугаёў — аўтар некалькіх кніг, многіх літаратуразнаўчых і крытычных артыкулаў па надзённых праблемах гісторыі і сучаснасці беларускай літаратуры. Дзве апошнія кніжкі — «Шматграннасць» і «Зброяй сатыры, зброяй праўды» вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР.

Ёмістае слова «шматграннасць»

ЛІТАРАТУРА

# ШМАТГРАННА, УДУМЛІВА

## ПРА КНІГІ Д. БУГАЁВА

не толькі раскрывае маштабы і сутнасць літаратурных з'яў, якія сталі аб'ектам даследавання, але і ў нейкай ступені характарызуе індывідуальнае аблічча даследчыка. Сапраўды, у «Шматграннасці» выяўляецца не толькі дыяпазон літаратурных інтарэсаў Д. Бугаёва, як пісьменніка з выразным і своеасаблівым стылем. Пісьменніцкай манеры Д. Бугаёва ў роўнай ступені ўласцівы даследчыцкая грунтоўнасць, аргументаванасць думкі і белетрыстычнасць пісьма. Тут арганічна спалучаюцца разважлівасць, лірычнасць і публіцыстычная тэмпераментнасць.

З тузіна артыкулаў зборніка восем — рэцэнзіі. І, чытаючы іх — на раманы М. Лобана «На парозе будучыні», А. Чарнышэвіча «Засценак Малінаўка», дылогію А. Адамовіча, цыкл аповесцей І. Шамякіна «Трывожнае шчасце», кнігі Б. Сачанкі, Г. Бураўкіна і іншых — адчуваеш, што рэцэнзія — не такі ўжо малазначны ў крытычнай гаспадарцы жанр. Рэцэнзіям Д. Бугаёва вагу і значнасць надае майстэрства аўтара, яго здольнасць выкарыстаць усе мажлівасці жанру — яны вызначаюцца праблемнасцю, культурай крытычнага аналізу, высокім прафесіяналізмам.

Астатнія артыкулы — аглядныя. Цікавы, на нашу думку, артыкул «Станаўленне мастака» — літаратурна-крытычны нарыс пра таленавітага і складанага мастака, беларускага празаіка Барыса Мікуліча. У раздзеле «Маладосць таленту» Д. Бугаёў свежа, па-сучаснаму перачытаў творы Васіля Каваля. Разглядаючы станаўленне брылёўскай навелы, крытык здолеў глыбока пранікнуць у яе шматфарбны паэтычны свет, вызначыць асаблівасці мастацкага стылю аднаго з буйнейшых майстроў беларускай мастацкай прозы.

У сваёй другой кніжцы «Зброяй сатыры, зброяй праўды» Д. Бугаёў разглядае творчасць народнага пісьменніка БССР Кандрата Крапівы. Кніга паводле жанру — гісторыка-крытычны нарыс. У адрозненне ад папярэдняй яна некалькі акадэмічная па манеры пісьма. Аднак крытык ад таго не стаў больш лагодны: ён па-ранейшаму глыбокі палеміст, зацяты праціўнік канонаў і догмаў. Ён аналізуе багаты гісторыка-літаратурны матэрыял, прыгадвае шматлікія факты, цытуе і супастаўляе выказванні вучоных і крытыкаў розных часоў і «школ». Творчае пераасэнсаванне, крытычная пераацэнка гісторыка-літаратурных, каштоўнасцей у святле сучасных навукова-эстэтычных крытэрыяў складае асноўны пафас кніжкі, яе галоўны прынцып.

Д. Бугаёў не толькі падмеціў і дакладна выявіў якасныя своеасаблівасці літаратурных жанраў выдатнага пісьменніка-сатырыка, але і прааналізаваў гісторыю кожнага з іх. Пераканаўча паказаны ў кнізе лёс і шляхі асобных твораў, іх сувязь з рэальным жыццём і сучасным літаратурным працэсам. Востра палемізуючы з ты-

*ШТО ЧЫТАЦЬ ПРА КНІГІ Д. БУГАЁВА «ШМАТГРАННАСЦЬ» І «ЗБРОЯЙ САТЫРЫ, ЗБРОЯЙ ПРАЎДЫ»*


**С. АНДРАЮК.** Абгрунтоўваючы творчыя пазіцыі. «Полымя», 1970. № 11.
**А. ГАРДЗІЦКІ.** «Шматграннасць». «Беларусь», 1970, № 12.
**А. ГАРДЗІЦКІ.** Справаздача крытыка. «Вопросы литературы», 1971, № 2.
**В. ЖУРАЎЛЁЎ.** «Зброяй сатыры, зброяй праўды». «Вячэрні Мінск», 24 верасня 1971 г.
**М. МУШЫНСКІ.** «Шматграннасць». «Неман», 1971, № 1.
**Я. УСІКАЎ.** Дзейснае слова крытыка. «Звязда», 4 жніўня 1971 г.
**Я. УСІКАЎ.** Свежым вокам. «Полымя», 1972, № 7.
**У. ЮРЭВІЧ.** Даследуюцца пошукі стылю. «Маладосць», 1971, № 3.




Ц. Кандрашоў у час рэпетыцыі.

Фота Ул. КРУКА.

ТЭАТРАЛЬНАЕ МАСТАЦТВА

# АДЧУВАННЕ ЖАНРУ

## ПРА РЭЖЫСУРУ Ц. КАНДРАШОВА

У СВОЙ час мне давялося глядзець спектаклі гэтага рэжысёра ў Яраслаўскім тэатры імя Ф. Волкава. Традыцыі рускага рэалістычнага мастацтва ў той трупе высокапрафесійных акцёраў-волкаўцаў Ц. Кандрашоў беражліва захоўваў і ўзбагачаў, калі даваў новую трактоўку «Беспасажніцы» А. Астроўскага, «Чайцы» А. Чэхава і «Цару Фёдару Іаанавічу» А. Талстога. У інтэрпрэтацыі галоўных вобразаў, у пластычным рашэнні спектакляў на поўную сілу гучала тэма маральнай прыгажосці чалавечай асобы, прыгажосці, якая гартуецца ў выпрабаваннях лёсу. Тэма «дабра», як тэма сацыяльная, заўсёды хвалюе гэтага рэжысёра.

Мне прыгадваюцца сустрэчы з ім і ў тэатрах Чэлябінска і Варонежа. На дзіва тонка, пранікнёна, лірычна паставіў Ціхан Аляксеевіч спектакль паводле аповесці «Калегі» В. Аксёнава. Колькі сонечнага аптымізму, паэтычнасці раскрыта было ў адухоўленых характарах нашай савецкай моладзі! Ці «Абрыў» па рамане І. Ганчарова — бязлітасны ў паядынку паміж Верай, бабуляй і «філосафам» Маркам Волахавым. Няма паветра, няма чым дыхаць людзям! Вірують страсці, шукае праўду Вера... І рэжысёр стварае ясную атмасферу сапраўднага драматызму.

І вось, валодаючы палітрай тонкіх псіхалагічных фарбаў у пастаноўцы спектакляў у жанры драмы і трагедыі, нечакана (прынамсі, для мяне) Ц. Кандрашоў «здрадзіў» сабе і ставіць камедыю. «Амністыя» М. Матукоўскага... Чытаю п'есу. Ну што ж, усё зразумела. Весела, лёгка, дасціпна! Нешта блізкае, скажам, В. Шкваркіну. Колькі разоў паўтаралася такое на сцэне: фельетон у вобразах. Гляджу «Амністыю» на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, і на маіх вачах адбываецца штосьці дзівоснае.

**Канчаецца першы акт, дзейныя асобы, якія прысутнічаюць на дні нараджэння свайго таварыша, слесара фабрыкі дзіцячых цацак грамадзяніна Салавейчыка, зухавата вытанцоўваюць «Цыганачку», танцуюць самааддана, жадаючы прынесці радасць «нованароджанаму». Але чаму яна такая па-сатырычнаму парадыйная, чаму ў ёй столькі мастакоўскай злосці, у той «Цыганачцы»? Танцуюць з выломкамі, хто як можа. Глядач смяецца з гэтага феерверка «цыганшчыны», але не доўга... Слесар Салавейчык зневажае сумленных, па сутнасці, людзей, якія ўзялі яго на парукі. Яны і на яго «свята» сабраліся, спадзеючыся, што гэта будзе першы крок у працэсе выхавання...**

Звярніце ўвагу, як дакладна распрацаваў рэжысёр мізансцэны: гэта, на першы погляд, тыповая «вечарынка», амаль жанравая бытавая замалёўка, але паводзіны Салавейчыка (артыст В. Тарасаў) часам набываюць такі востры характар, што паверыць у «ідылію» ўзаемаадносін яго з Кічкайлам (П. Кармунін), Бажашуткавай (З. Бравáрская) і Сцепанідай Моўчан (Б. Дакальская) цяжка, немагчыма. Некаторыя «пасажы» выглядаюць рухавымі сатырычнымі карыкатурамі — гэта, напрыклад, калі Салавейчык «частуе» гасцей шампанскім і Кічкайла гаворыць свой тост, набраўшы папярэдне цытат з кнігі «У свеце мудрых думак», калі Бажашуткава раптам «дэкламуе» вершы...

Мы нават не паспяваем заўважыць, як і дзе рэжысёр ад бытавой характарыстыкі Салавейчыка пераходзіць да сатырычнага выкрыцця гэтага «падонка». Аблічча пачвары не дэманструецца, а па-скульптурнаму лепіцца з жыццёва праўдзівых і завостраных форм і фарбаў.

Рэжысёр не даруе такой «дабрыні», «паблажлівасці», якія абстрактна, магчыма, і заслугоўваюць падзякі, але ў канкрэтнай сітуацыі гэтай камедыі робяцца шкоднымі і дыскрэдытуюць добрую справу. Кічкайла і Бажашуткава побач з

мі даследчыкамі, якія схільны былі расчыць у бытавой манеры пісьма рамана К. Крапівы «Мядзведзічы» рэцыдывы натуралізму, крытык пасляд оўна і абгрунтавана даводзіць нацыянальную самабытнасць і наватарскі характар твора. «Крапіва сваім раманам «Мядзведзічы», — робіць вывад крытык, — распачынаў і ўмацоўваў тыя традыцыі, якія аказаліся вельмі плённымі і ў наш час, традыцыі, абапіраючыся на якія, выраслі сённяшнія поспехі беларускай мастацкай прозы аб вёсцы».

Праблемнасць і тэндэнцыйнасць, палемічны запал і даследчыцкая грунтоўнасць характэрны і для іншых раздзелаў даследавання.

І можна быць толькі ўдзячным крытыку, які, па сутнасці, упершыню ў нашым літаратуразнаўстве паказаў шырокаму чытачу свет і ідэі «малой прозы» К. Крапівы — адной з надзвычай цікавых з'яў беларускай сатыры.

Прафесійна глыбока, густа напісаны раздзелы «У пошуках сваёй дарогі», «Сатырычная зброя малога калібра» і «Буйныя вершаваныя творы».

Варта падкрэсліць, што, разглядаючы розныя этапы творчага станаўлення сатырыка, мастацкія асаблівасці яго твораў, Д. Бугаёў настойліва імкнецца пранікнуць у псіхалогію і філасофію творчасці пісьменніка, у лабараторыю яго думкі, каб адчуць і ўявіць «факт стварэння» ў яго першароднай сутнасці. І, магчыма, дзякуючы менавіта гэтай пранікліваcці, даследчыцкай уедлівасці крытыку ўдалося так глыбока і тонка «прачытаць» мастацкую індывідуальнасць выдатнага майстра сатыры.

Вылучэнне на атрыманне Дзяржаўнай прэміі — ужо само па сабе прызнанне працы пісьменніка. Лічу кнігі Д. Бугаёва «Шматграннасць» і «Зброяй сатыры, зброяй праўды» вартымі такой высокай адзнакі.

**Дзмітрый ГАЛЬМАКОЎ.**

ЛІТАРАТУРА

# ШЧОДРАСЦЬ ТАЛЕНТУ

## ПРА «КНІГУ СТА ПЕСЕНЬ» К. КІРЭЕНКІ

У старажытным павучэнні, якое бытуе на Магілёўшчыне, расказваецца, як да беднага селяніна ў самы цяжкі для яго час завіталі тры жабракі і папрасілі накарміць іх. А сям'я якраз садзілася за стол.

Сям'я вялікая, мо' васьмёра дзяцей. І ў кожнага смактала пад лыжачкай ад галадухі... Мо' па лыжцы і дасталося б кожнаму з іх, ды выгляд у жабракоў быў такі гаротны, што гаспадар устаў з-за стала і сваю лыжку перадаў аднаму госцю. Другому падала сваю лыжку гаспадыня. За імі і дзеці паклалі лыжкі на стол. Але жабракі аказаліся цудадзеямі. Адзін махнуў крысом сваёй шырокай світкі і засыпаў прысмакамі шырокі стол. Потым сказаў гаспадару:

— За дабрыню тваю, за шчырасць і гасціннасць тры мары споўніць мы тваё павінны.

Гаспадар адказаў:

**— Я садам бы украсіў зямлю продкаў,**
**Пакрыў жытамі з краю ў край яе палеткі**
**І ўклаў сто песень пра яе!**

Я не выпадкова пачаў размову аб паэзіі вядомага беларускага паэта Кастуся Кірэенкі са старажытнага павучэння.

Калі пачынаеш чытаць новыя вершы Кастуся Кірэенкі, што ўвайшлі ў «Кнігу ста песень», адразу бачыш іх падабенства з народнымі песнямі, на якія так багаты наш край.

Родны край, любы Сож, мілы бацькоўскі парог... Любоў паэта — не нейкая летуценнасць. Ён любіць родную зямлю, бацькаўшчыну таму, што

**Тут, толькі тут ёсць тая сіла,**
**Што ўтаймоўваць можа боль.**

Ветэран самай жудаснай вайны, якую калі-небудзь ведаў свет, К. Кірэенка пяе аб міры і як інтэрнацыяналіст хоча заўсёды бачыць чыстым не толькі адно роднае неба:

**Гляджу: матуля песціць сына...**
**А недзе ў вочы б'е напалм.**
**І зноў на нейкую краіну**
**Раптоўна вылюдак напаў...**

Не, паэт мае на ўвазе не якуюнебудзь невядомую краіну, ён палымянае сваё слова ўзнімае ў абарону В'етнама:

**Маленькі хлопчык крыкнуў: — Мама!..**
**А бомбы голас быў гучней...**
**І боль пакутнага В'етнама**
**Стаў, як рака, яшчэ паўней.**

Чалавек, які прысвяціў сваё жыццё барацьбе за шчасце, хоча бачыць гэтае шчасце заўсёды незмрочаным:

**Спявайце, леры і калыскі,**
**І слаўся, дзён — узлёт і сум...**
**За ўсё, за ўсё паклон свой нізкі**
**Табе, жыццё, я прынясу.**

**Адно, прашу, не дай пабачыць,**
**Адно нідзе не дай пазнаць,**
**Як людзі ад няпраўды плачуць**
**І крыўды іх з труны не ўзняць...**

Песні жыцця — так коратка можна ахарактарызаваць змест новай кнігі Кастуся Кірэенкі. А гэта ўжо само па сабе заслугоўвае павагі.

**Пятро ШАЎЦОЎ.**

*ШТО ЧЫТАЦЬ ПРА «КНІГУ СТА ПЕСЕНЬ» К. КІРЭЕНКІ*

**І. МЯДЗВЕДЗЕЎ. Дзе песня ціхая звініць.** «Літаратура і мастацтва», 21 красавіка 1972 г.

**Я. ГАМОЛКА, Г. ЖАРЫЙ. Каб струны для людзей гучалі.** «Звязда», 7 кастрычніка 1972 г.

ЛІТАРАТУРА

# ШТО ДОБРА, А ШТО...

## ПРА КНІГУ С. ГРАХОЎСКАГА «ПАЭМА ДАРОГ»

Паэтычны зборнік Сяргея Грахоўскага «Паэма дарог» я прачытаў упершыню ў нашай універсітэцкай бібліятэцы. Як цяпер памятаю, мы рыхтаваліся да чарговага экзамена. Побач сядзелі студэнты-філолагі, адзін з іх і гартаў гэтую кніжку. Яны шэптам паміж сабой аб нечым ажыўлена спрачаліся. Адчувалася, што зборнік зацікавіў іх. Мне таксама захацелася прачытаць вершы і праз некалькі мінут, адклаўшы ўбок падручнікі і ўзяўшы ў хлопцаў кніжку, я чытаў іх.

Дагэтуль я ведаў С. Грахоўскага як празаіка, аўтара аповесці «Рудабельская рэспубліка». І вось новае знаёмства. Многія вершы адразу пакарылі мяне сваёй шчырасцю, праўдзівасцю, непадкупнай чысцінёй і першароднасцю. Сталы паэт з вышыні пройдзеных гадоў гаварыў з нашым сучаснікам, як блізкі знаёмы... «Ты помніш чэрвеньскія ночы...», «Хвіліна маўчання», творы пра Уладзіміра Ільіча Леніна, вядома, не маглі пакінуць мяне, чытача, абыякавым.

...Цяпер новая сустрэча з «Паэмай дарог» Сяргея Грахоўскага. Кніга ў спісе прэтэндэнтаў на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР. Побач таксама таленавітыя кнігі паэзіі. Маю на ўвазе «Кнігу ста песень» Кастуся Кірэенкі, «Жніво» Генадзя Бураўкіна. Але ж прэмія толькі адна.

Не, мае густы не змяніліся, я па-ранейшаму лічу зборнік С. Грахоўскага адным з лепшых дасягненняў у нашай беларускай паэзіі, але мушу быць шчырым: сёе-тое ў гэтай кніжцы мяне як чытача і не задавальняе. Вабіць па-ранейшаму шчодрасць аўтарскай палітры, шырыня мыслення, але, думаецца, гэтая кніжка, будучы добрай, яшчэ не самая лепшая ў паэзіі апошніх гадоў і нават у творчасці самога паэта. С. Грахоўскі працуе плённа, гэта бясспрэчна, але ён яшчэ напіша і лепш.

У кнізе «Паэма дарог» пры больш уважлівым чытанні адчуваецца і пэўная недапрацоўка, некаторая паспешлівасць, Некаторыя мясціны ў ёй занадта рытарычныя.

Не ўсе вершы мне падабаюцца. І хоць у цэлым паэт паказвае сябе тонкім, удумлівым лірыкам, часам ён пачынае зніжаць патрабавальнасць да сябе. Тады ў вершах трапляюцца матывы выпадковыя. Так, па-мойму, атрымалася ў цікавым вершы «Яблыкі». Калі чытаеш пра вяселлі, якія коцяцца па дарогах, яшчэ выразна бачыш малюнак. Але вось радкі пачынаюць фальшывіць: «...Маладыя, як Адам і Ева, кусаюць спелы яблык удваіх». Па-першае, гэты паэтычны вобраз ужо далёка не новы, а па-другое — «біблейскі» сюжэт у дадзеным выпадку аніяк не стасуецца з самім вершам. Палымянасць кахання, вяселлі, што коцяцца па дарогах і... біблейскі яблык — усё гэта гучыць вельмі надумана.

Вядома, гэта нязначныя недапрацоўкі. І ўсё-такі ў кнізе, якая вылучаецца на Дзяржаўную прэмію, пажадана бачыць толькі добрае.

**М. ДЗЯМ'ЯНАЎ,**
**студэнт БДУ імя У. І. Леніна.**

тым Салавейчыкам, якога іграе В. Тарасаў ў спектаклі Ц. Кандрашова, вобразна кажучы, па заслугах разбіваюць сабе лбы...

**Дырэктара фабрыкі дзіцячых цацак Якава Добрых іграе Л. Рахленка. Упершыню гэты майстар сцэны сустрэўся з Ц. Кандрашовым у «Апошняй ахвяры» А. Астроўскага, і там яны па-творчы зразумелі адзін аднаго, акцёр і рэжысёр. «Амністыя» — яшчэ адзін прыклад плённага супрацоўніцтва паміж сталымі таленавітымі мастакамі. Што раіў Ц. Кандрашоў выканаўцу ролі Добрых — не ведаю. Затое на спектаклі адчуваю, як тонка і нават далікатна «ўпісвалі» яны «трагедыйны» матыў у камедыю: дырэктар фабрыкі памірае ад інфаркта. І гэты эпізод — парадаксальная з'ява! — не «выпадае» з агульнай стылявой плыні пастаноўкі. Значыцца, Л. Рахленка разам з рэжысёрам шукаў і знайшоў адзіна правільную і апраўданую жыццём і яе сцэнічным адлюстраваннем «лінію паводзін» у ролі.**

**Ды і маладая актрыса Н. Піскарова, ствараючы вобраз сапраўды сучаснага спецыяліста, дасведчанага знаўцы справы, іграе не прасталінейную «станоўчую» гераіню, а вельмі багатую натуру, чулую да праўды і да фальшы. Тамара Мажэйка — Г. Кротавай, Зойка Гусельнікава — А. Доўгай, Андрэй Таратура — М. Казініна ўспрымаюцца сумленнымі, чыстымі прадстаўнікамі тых, хто цяпер «галоўную службу нясе», паводле слоў паэта. Рэжысёр Ц. Кандрашоў разам з гэтымі артыстамі стварае дзівосны паэтычны свет, які сам па сабе «варожы» Салавейчыку і яго маралі, маралі драпежнага прыстасаванства.**

І тут я мушу сказаць, што спектакль купалаўцаў для мяне асабіста прагучаў не «камедыяй», як гэта пазначана на афішы. Жанр яго іншы — трагічная сатыра. Трагічная, бо на нашых вачах памірае цудоўны чалавек — дырэктар фабрыкі Добрых. І гэта сатыра, бо ўсім пафасам твор скіраваны супраць адмоўных з'яў, выкрывае з'едлівым смехам носьбітаў чужой нам маралі. Наогул, на маю думку, цяпер нярэдка здараецца блытаніна ў жанравых вызначэннях сцэнічных твораў. Меладраму іграюць, бывае, як драму, а псіхалагічную п'есу — як лірычныя эцюды... Між тым, пры ўсёй дыялектычнай супярэчлівасці матываў у адным спектаклі поспеху дасягае той, хто дакладна ведае жанр тэатральнага відовішча. Заслуга купалаўцаў на чале з Ц. Кандрашовым у тым, што «Амністыю» яны раскрылі як трагісатыру. Дарэчы, і «Трыбунал» А. Макаёнка з'ява складаная ў жанравым напаўненні: трагікамедыя, напісаная па форме як народны лубок... Беларускі тэатр смела звяртаецца да такіх твораў.

«Амністыя» — спектакль сучасны, патрэбны, праблемны. Тэатр заўсёды будзе песняром лепшых чалавечых якасцей, высокай маральнай чысціні. Так, заўсёды! Заўсёды савецкія людзі будуць падаваць руку дапамогі адзін аднаму. Што ж, іншы раз гэта скарыстае і прайдзісвет, накшталт Салавейчыка. Але і мастацкія творы, тая ж «Амністыя» на сцэне, вядуць бой супраць прайдзісветаў, якім жыцця ў такім «святле» не будзе. Смех, слёзы, боль, аптымізм, вера ў людзей, непрымірымасць да ўсяго пачварнага — эмацыянальныя фарбы многазначнага і яркага спектакля. Драматург знайшоў у асобе рэжысёра Ц. Кандрашова ўдумлівага інтэрпрэтатара, а ў акцёрах — яркіх выканаўцаў, якія зразумелі і адчулі прыроду жанру.

**А. ДАБРОЦІН,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР.**

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ МАСТАКОЎ



**ЛЮБІМАЎ Юрый Міхайлавіч.** Нарадзіўся ў 1938 годзе ў горадзе Пашахонне, Яраслаўскай вобласці. У 1967 годзе скончыў Маскоўскае вышэйшае мастацка-прамысловае вучылішча (былое Строганаўскае). Працуе выкладчыкам у Беларускім Дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Аўтар дэкаратыўнага трыпціха «Белавежская пушча», дэкаратыўных талерак «Новы Мінск», «Стары Мінск», пано «Навука», дэкаратыўных уставак «Начныя птушкі», «Белавежскі матыў».



**МІГАЛЬ Веніямін Сямёнавіч.** Нарадзіўся ў 1934 годзе ў Сумскай вобласці. У 1967 годзе скончыў Беларускі Дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Сумесна з В. Пазняком выканаў вітраж для Дома культуры трактарнага завода і вітраж «Беларусь Савецкая» для міжнароднай выстаўкі у Плоўдзіве.



**НЯКРАСАЎ Альберт Васільевіч.** Нарадзіўся ў 1937 годзе ў Валагодскай вобласці. У 1965 годзе скончыў Ленінградскае вышэйшае мастацка-прамысловае вучылішча імя Мухінай. Аўтар дэкаратыўных пано для маладзёжнага кафе ў Віцебску, для сельскагаспадарчага тэхнікума ў пасёлку Смальяны, пано і вітража для віцебскага Палаца піянераў, мазаічнага пано для педінстытута ў Віцебску.



**ПАПОЎ Дзмітрый Аляксандравіч.** Нарадзіўся ў 1938 годзе ў горадзе Болградзе, Адэскай вобласці. У 1965 годзе скончыў Беларускі Дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Аўтар скульптурных кампазіцый «Грэнада», «Блакітны прэлюд», «Галя», «Двое», помнікаў у вёсках Хатоўня і Насовічы Гомельскай вобласці.



**ПОЗНЯК Вячаслаў Аляксандравіч.** Нарадзіўся ў 1940 годзе ў горадзе Мінску. Беларускі Дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут скончыў у 1967 годзе. Аўтар (сумесна з В. Мігалём) вітража для Дома культуры трактарнага завода і вітража «Беларусь Савецкая» для міжнароднай выстаўкі ў Плоўдзіве. Выканаў вітраж «Беларусь ардэнаносная» для ВДНГ БССР.



**ПУЦЕЙКА Аляксандр Міхайлавіч.** Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Мінску. Беларускі Дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут скончыў у 1967 годзе. Аўтар карцін «Край партызанскі», «Аўтапартрэт», «Люся», «Свята», «Партрэт дзяўчыны» і серыі пейзажаў Беларусі.



**РЫБЧЫНСКІ Анатоль Ігнатавіч,** Нарадзіўся ў 1936 годзе ў горадзе Крычаве. У 1967 годзе скончыў Беларускі Дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Аўтар ілюстрацый да аповесці П. Галавача «Спалох на загонах», графічнай серыі «Крычаўскі цэментна-шыферны камбінат», пейзажаў «Заходняя ўскраіна», «Браслаў», «Палескае сутонне», «Вясковы пейзаж».



**РЫЖЫКАЎ Мікалай Максімавіч.** Нарадзіўся ў 1939 годзе ў Луганскай вобласці, у 1967 годзе скончыў Беларускі Дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Аўтар трыпціха «Гродна. Ударная камсамольская будоўля», графічнай серыі «Радасць», афортаў «Бабуліна скрынка», «Піражкі з яблыкамі», «Восень», «Праталіны», «Вечар», «Вясна».



**СКРЫПНІЧЭНКА Георгій Сяргеевіч.** Нарадзіўся ў 1939 годзе ў горадзе Нікалаеве. Мінскае мастацкае вучылішча скончыў у 1966 годзе. Аўтар акварэляў «Нацюрморт», «Вечар», «Завод», ілюстрацый да «Дон-Кіхота» і серыі работ у галіне прамысловай графікі.



**ЧЫСЦЯКОЎ Анатоль Леанідавіч.** Нарадзіўся ў 1942 годзе ў Маскве. У 1971 годзе скончыў Цэнтральную навучальна-эксперыментальную студыю Саюза мастакоў СССР. Аўтар інтэр'ера нарзанавай галерэі ў Пяцігорску, праектаў інтэр'ераў Мінскага дэпо, мінскага Дома кіно, гандлёвага цэнтра для калгаса «Савецкая Беларусь» і серыі акварэляў.

*НАПЯРЭДАДНІ АДКРЫЦЦЯ ЗАСЛОНЫ*

# ЗАЎТРА, А ПАЛОВЕ ВОСЬМАЙ

## РАСКАЗВАЕ ДЫРЭКТАР ДЗЯРЖАЎНАГА АКАДЭМІЧНАГА ВЯЛІКАГА ТЭАТРА ОПЕРЫ І БАЛЕТА БССР М. ШАЎЧУК

Вялікі калектыў артыстаў самага буйнага музычнага тэатра Беларусі з хваляваннем чакае адкрыцця заслоны новага сезона, які пачынаецца ў час падрыхтоўкі да ўсенароднага свята 50-годдзя ўтварэння братняга Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Зразумела, перш-наперш, мабыць, варта назваць творы, над якімі мы працуем з аўтарамі. Гэта і новая рэдакцыя лірычнай оперы Я. Глебава «Твая вясна» (лібрэта М. Алтухова), і камічная опера «Пінская шляхта» Г. Вагнера (лібрэта паводле п'есы В. Дуніна-Марцінкевіча напісаў Я. Шабан).

Бліжэйшыя творчыя планы прадугледжваюць пастаноўку балета па горкаўскіх матывах — «Данка». Музыку да яго піша кампазітар Д. Смольскі на лібрэта маладога харэографа А. Бутрымовіча. Вобраз любімца моладзі, героя славутай кнігі Шарля дэ Кастэра Ціля Уленшпігеля будзе ўвасоблены ў балетным спектаклі на музыку Я. Глебава (лібрэтыст А. Дадзішкіліяні).

Калі «адкрываць» усё тое, што мае наш, як кажуць, рэпертуарны партфель, то трэба назваць і дэбют І. Лучанка ў оперным жанры. Калісьці паэтэса Э. Агняцвет і кампазітар Р. Пукст удала выступілі як аўтары оперы для дзяцей «Марынка». Цяпер Э. Агняцвет напісала лібрэта для І. Лучанка — «Зоры над соснамі» (назва, зразумела, умоўная).

Да жыцця і подзвігу Джардана Бруна звяртаюцца кампазітар С. Картэс і аўтар лібрэта Ул. Халіп...

Сказаць, што наш перспектыўны план цалкам задавальняе калектыў, нельга. Мы спадзяёмся, што ў выніку разнастайных творчых захадаў беларускія кампазітары больш актыўна будуць распрацоўваць сучасную тэматыку. І не толькі тэматыку. Варта шукаць і прынцыпова новае ў трактоўках музычнай асновы оперных і балетных твораў, а гэта магчыма тады, калі беражлівае захаванне лепшых узораў і традыцый мінулага будзе ўзбагачацца прыёмамі сучаснай музычнай мовы і драматургічнай пабудовы. Тэатр зацікаўлена ставіцца да кожнай прапановы, патрабавальна і добразычліва ацэньвае «заяўкі» кампазітараў...

Заўтра мы пакажам класічны твор П. Чайкоўскага «Пікавая дама».

А там на афішы застракацяць — «Выбранніца» Я. Глебава, «Чыо-Чыо-Сан» Д. Пучыні, «Гарэзлівыя частушкі» Р. Шчадрына. «Балеро» М. Равеля, «Севільскі цырульнік» Д. Расіні... Дарэчы, з нашымі спектаклямі сёлета пазнаёміліся аматары музычнага тэатра ў Смаленску і Днепрапятроўску, гастралявалі мы ў Гомелі; артысты давалі спектаклі і ў раённых гарадах названых абласцей, у калгасах і саўгасах, на прадпрыемствах. Гастралюючы па гарадах рэспублікі, мы яшчэ і яшчэ раз пераканаліся ў тым, колькі ў нас гарачых прыхільнікаў музычнага тэатра, чулых і дапытлівых слухачоў. У прыватнасці, сёлетнія нашы выступленні ў Гомелі паказалі, што гэты горад можа быць горадам нашых сталых гастрольных падарожжаў. Спектаклі і канцэрты там карысталіся вялікім поспехам.

У рэпетыцыйных залах рыхтуюцца новыя спектаклі. Ставім оперу грузінскага кампазітара А. Тактакішвілі «Міндзія». Рэжысёр—С. Штэйн, дырыжор — Я. Вашчак. Разам з нашай пастановачнай групай працуюць госці з радзімы аўтара—мастак М. Малазонія, харэограф М. Ламтацідзе... Побач з вядучымі майстрамі ў оперы выступяць і маладыя салісты, выхаванцы Беларускай кансерваторыі імя А. Луначарскага: І. Адзінцова, М. Зданевіч, М. Галкоўскі, Ул. Іваноўскі...

Наперадзе — жамчужына класічнага опернага мастацтва, моцартаўскі «Дон-Жуан», які рыхтуюць рэжысёр А. Дадзішкіліяні і дырыжор Ул. Машэнскі.

У балетным рэпертуары такія навінкі — «Раймонда» А. Глазунова і «Бахчысарайскі фантан» Б. Асаф'ева, «Вясна свяшчэнная» І. Стравінскага і інш.

Здаецца, мы пачынаем пералічваць вялізны спіс. А за кожнай назвай — натхнёная і напружаная праца вялікага калектыву.

Артысты і рэжысура чула прыслухоўваюцца да таго, што пра іх гаворыць публіка, піша крытыка, але яшчэ даражэй ім творчы кантакт з глядзельнай залай. І хочацца, каб такі кантакт усталяваўся ў нас з мінчанамі з першых спектакляў сезона.

# СУСТРЭЧЫ З НОВЫМІ ГЕРОЯМІ

## РАСКАЗВАЕ ДЫРЭКТАР БРЭСЦКАГА АБЛАСНОГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА ІМЯ ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА БЕЛАРУСІ ЗАСЛУЖАНЫ ДЗЕЯЧ КУЛЬТУРЫ БССР Л. ВАЛЧЭЦКІ

— СЁННЯ наш тэатр пачынае свой 29-ты сезон.

Сёлетні сезон мы адкрываем спектаклем «Зацюканы апостал». Пастаноўшчык — галоўны рэжысёр тэатра Г. Волкаў, мастак — Д. Іглін.

У час гастроляў быў падрыхтаваны спектакль па трагедыі сучаснага башкірскага драматурга М. Карыма «У ноч зацьмення месяца». Паставілі яго рэжысёры С. Яўдошанка і М. Кавальчык, афармленне выканана па эскізах башкірскай мастачкі Т. Імашавай.

Да слаўнага юбілею рыхтуецца лірычная камедыя грузінскага пісьменніка Н. Думбадзе «Не хвалюйся, мама!..» Зварот нашага тэатра да гэтай п'есы — заканамерны: мы неаднойчы чулі пажаданні нашых гледачоў убачыць на сцэне спектакль пра жыццё і нялёгкую службу воінаў-пагранічнікаў. Спадзяёмся, што п'еса Н. Думбадзе з'явіцца добрым адказам на гэтыя пажаданні.

На сцэну нашага тэатра многа разоў выходзілі героі п'ес украінскіх, латышскіх, эстонскіх драматургаў. З пастаноўкай твораў М. Карыма і Н. Думбадзе тэатр пашырае межы рэпертуарнай геаграфіі, сустракаецца з новымі героямі, самабытнымі нацыянальнымі характарамі.

Якія ж планы тэатра на новы сезон?

Набліжаецца да завяршэння работа над пастаноўкай камедыі А. Астроўскага «На бойкім месцы» — яна прысвячаецца 150-годдзю з дня нараджэння вялікага рускага драматурга. Ставіць спектакль малады рэжысёр М. Кавальчык (мастак Ю. Тур). Яму ж даручана таксама пастаноўка камедыі П. Кальдэрона «Дама-невідзімка».

Цяпер фарміруецца перспектыўны рэпертуар. Тут знойдзе працяг творчая дружба з маладым пісьменнікам А. Пінчуком. Яго п'еса «Лейтэнанты», як вядома, на нашай сцэне была паказана тры гады назад і па-ранейшаму выклікае цікавасць гледача. Драматург напісаў для нашага тэатра новую п'есу «Самы шчаслівы чалавек», якую мы мяркуем паказаць яшчэ ў гэтым сезоне. Зацікавіла нас п'еса А. Аляксіна «Званіце і прыязджайце». Ёсць у рэпертуарным партфелі арыгінальная п'еса аб рабочым класе, але работа над ёю пакуль працягваецца. Варта адзначыць, што ўсе гэтыя творы прысвечаны сучаснасці, вызначаюцца вастрынёй пастаноўкі важных пытанняў надзённага жыцця.

У планах тэатра цікавыя мерапрыемствы па творчай вучобе моладзі, сустрэчы з гледачамі, працяг садружнасці з калектывам Брэсцкага электрамеханічнага завода.

Тэатр у горадзе над Бугам адкрывае 29-ы сезон...

# НЕ РАЗЛУЧАЦЦА З КАЗКАЮ!

## СПЕКТАКЛЬ «Я СПЯШАЮСЯ ЗА ЛЕТАМ» У РЭСПУБЛІКАНСКІМ ТЭАТРЫ ЮНАГА ГЛЕДАЧА

НЕ КОЖНАЯ казка можа захапіць дарослага чалавека, якому ўласціва скептычная патрабавальнасць і залішне рэалістычнае стаўленне да мастацтва. А мастацтва, асабліва тэатральнае, грунтуецца і трымаецца на ўмоўнасцях. Калі глядач паверыць у праўду мастацтва, забудзецца пра ўмоўнасці, ён становіцца саўдзельнікам відовішча. Быць добрым гледачом не заўсёды проста. Безапеляцыйная даверлівасць часам вядзе да непатрабавальнасці. Залішні скепсіс разбурае мастацтва. А дзеці надзвычай чуйныя да прыгожага, да сапраўднага мастацтва і вельмі востра рэагуюць на фальш і падробку. А паверыўшы, становяцца саўдзельнікамі падзей, што іх захапілі са сцэны. Яны часам крычаць любімаму герою «хавайся», «уцякай»... Біятокі непасрэднага ўспрымання ўздзейнічаюць і нават на больш разважлівых гледачоў.

**Такое адчуванне не пакідала мяне на спектаклі тэатра юнага гледача «Я спяшаюся за летам». Незвычайнасць была не толькі ў казачным відовішчы, не толькі ў сюжэце і дакладнай сацыяльнай аснове. Запамянальна ўзаемнае ўзбагачэнне двух братніх народаў, двух блізкіх мастацтваў. П'есу напісала літоўская паэтэса Віялета Пальчынскайтэ, паставіла спектакль Аўрэлія Рагаўскайтэ, музыку стварыў кампазітар В. Павілайціс, а танцы таксама паставіў літоўскі балетмайстар І. Жабраўскас. А што ж тады засталося тэатру! Героі загаварылі і заспявалі па-беларуску. Анатоль Вярцінскі здолеў у перакладзе п'есы захаваць афарыстычнасці, дасціп дыялогаў і рэплік, стварыць запамінальныя куплеты, якія раскрываюць найбольш значныя думкі п'есы.**

**Адразу, прыйшоўшы ў залу, трапляеш у атмасферу казкі. На адкрытай сцэне светлыя незвычайныя агароджы і канструкцыі, створаныя літоўскай мастачкай В. Гатавінайтэ. І дзеянне пачынаецца ў зале. Той самы сумны дарадца, рацыяналіст, паточаны скепсісам, у чароўным камені, знойдзеным дзяўчынкаю, бачыць звычайны мінерал і сваёй разважлівасцю спрабуе разбурыць казку, у якой ужо жыве дзяўчынка Гедра (арт. Л. Барташэвіч). Але яна ў сваім захапленні вядзе і нас на сцэну, у дзівосную і паэтычную казку.**

У незвычайным гародчыку, які для яго насельнікаў уяўляецца чароўным мірным горадам, жывуць вясёлыя Адуванчыкі, недаспелая Трускаўка, бялюткая Канвалія, яе муж, галава горада Піён... прыгожыя мірныя кветкі. Сланяецца і калючы, пыхлівы Агрэст. У кветніку—свае радасці і прыгажосці. Яскравыя касцюмы, светавыя эфекты, лёгкія, з вынаходніцтвам і густам створаныя дэкарацыі, пераносяць у атмасферу казкі. Кожная асоба—характар не батанічны, а сацыяльны, сімвалізуе норавы, ім-



*СЛОВА ПРА МАЛОДШАГА СЯБРА*

# КРОКІ ПЕРШЫЯ, УПЭЎНЕНЫЯ...

Некалькі гадоў назад за кулісамі нашага тэатра з'явілася «новенькая». Дапытлівая і сціплая, гэтая супрацоўніца літаральна на вачах артыстаў вывучала «кухню» кожнага спектакля. Яе цікавіла ўсё. Яна ўважліва назірала за тым, як мы грыміруемся, рыхтуемся і потым—зразумела, кожны пасвойму,—пераўвасабляемся ў «вобраз». Вось якіх пяць хвілін назад гэта быў Расціслаў Янкоўскі, а цяпер ён ужо Арбенін; толькі што да актрысы можна было звярнуцца «Аляксандра Іванаўна», але не паспееш падумаць, як яна ўжо царыца Клеапатра...

Ірына Гаркуша пачынала службу ў тэатры з касцюмернага цэха... І раптам мы даведаліся, што ёй даручана роля ў казачнай пастаноўцы для дзяцей. У спектаклі «Ад казкі да казкі» яна сыграла Алёнку—вясковую дзяўчынку, істоту непасрэдную, натуру лірычную, характар празрысты. І—зачаравала ўсіх сваёй шчырасцю. Калектыў наш радаваўся гэтаму дэбюту.

**Хто ж яна такая, Іра Гаркуша? Нарадзілася ў Горках, Магілёўскай вобласці. Бацька яе быў рэктарам славутай Сельскагаспадарчай акадэміі. У дзіцячыя гады яна марыла стаць балерынай. Трапіла аднойчы ў Ленінград, глядзела многа спектакляў у розных тэатрах. І зарадзілася любоў да драматычнага тэатра. Ірына паступае ў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Сям'я не вельмі ўхваляла такі выбар прафесіі, бо спадзявалася, што і малодшая дачка «па традыцыі» пойдзе па навуковай лініі. Ірына цвёрда вырашыла прысвяціць жыццё тэатру.**

**У 1968 годзе яна скончыла інстытут і атрымала накіраванне ў абласны драматычны тэатр горада Гродна. Там іграла розныя ролі, сярод якіх найбольш яркай была, мабыць, гераіня спектакля «Панна Малічэўская» па п'есе Г. Запольскай.**

**Потым сям'я пераехала ў Мінск. Тут Ірыну напаткала няўдача. У Рускім тэатры БССР імя М. Горкага ў той час не было вакантных акцёрскіх пасад. Тады дзяўчына паступае ў касцюмерны цэх. Ёй дазваляюць сумясціць работу з выступленнямі на сцэне. І пачаліся напружаныя «этапы» працоўнай дзейнасці. Раніцай рэпетыцыі, удзень падрыхтоўка ў касцюмернай да спектакля, увечары абслугоўванне акцёраў, а часта і ўдзел у спектаклі як актрысы...**

І так здарылася, што мы, артысты, нават і не заўважылі, калі ж наша супрацоўніца з касцюмернага цэха рашуча і канчаткова перайшла ў «актрысы».

Аленка ў спектаклі «Ад казкі да казкі» па п'есе В. Рэдліх, пастушка ў «Разгроме» А. Фадзеева, Аня ў «Дзецях Ванюшына» С. Найдзёнава, Галя Чацвяртак у спектаклі «А зоры тут ціхія...» Б. Васільева, Клара ў «Дурніцы» Лопэ дэ Вэга, Верачка ў «Саслужыўцах» Э. Брагінскага і Э. Разанава, Марына ў «Білеце ў мяккі вагон» А. Маўзона... Бачыце, я раблю толькі пералік роляў, а спіс рэпертуарны атрымліваецца ладны!

У спектаклі «Разгром» я—партнёр І. Гаркушы. У сцэне допыту і расстрэлу белымі партызана Мяцеліцы іграю ролю кулака, гаспадара пастушкі. І кожны раз мая маладая калега яшчэ за кулісамі, задоўга да выхаду на сцэну, бярэ маю руку. Бо мяркуецца, што я, «кулак»,

# ЛЯЛЬКІ РАДУЮЦЬ, ЛЯЛЬКІ ПАЦЯШАЮЦЬ

## ГАСТРОЛІ ВОЛГАГРАДСКАГА ТЭАТРА ЛЯЛЕК У МІНСКУ

Гэта не толькі абавязак, гэта яшчэ і пачэсная місія — выступаць у гарадах-пабрацімах. Цяпер беларускія лялькі са сваім рэпертуарам знаёмяць дзяцей (ды і дарослых) у горадзе над Волгай. А «гаспадары» сцэны адтуль завіталі да нас, у горад партызанскай славы.

У гэтым калектыве, якім кіруе з 1938 года заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР А. Хмялёў, працуюць кваліфікаваныя артысты-лялечнікі Ю. Семыкін, Л. Люі-Чан, В. Лазінская, Р. Пантух, Л. Пятрунiна, Ю. Бабін, В. Дулянкова, здольная творчая моладзь — Л. Бярозава, Н. Голуб'ева, А. Ільін.

Маленькім мінчанам ужо давялося сустрэцца з многімі «героямі» спектакляў, горача апладзіраваць ім.

**Васіль БЫКАЎ**



# КРУТЫ БЕРАГ РАКІ

АПАВЯДАННЕ



Мал. А. САПЕТКІ.

ЗВЫЧАЙНА ён прыходзіў сюды на захадзе сонца, калі міналася спёка і ля ракі на яе ярыстых, зарослых хмызняком берагах пачынала цягнуць прахалодай. Надвячоркам амаль сціхаў вецер, знікала дакучлівая рабізна на вадзе, наставаў час начное рыбалкі. Прыезджыя з горада рыбакі таропка растыкалі па камяністых водмелях кароценькія вудзільні донак і, тут жа кінуўшы на траву якую адзежыну, рыхтаваліся скаратаць на ёй нядоўгую ліпнёвую ноч.

Пятровіч выходзіў з травяністага лясного раўка ад недалёкай прырэчнай вёскі і адзінока садзіўся на краі камяністага, амаль навіслага над вадой абрыву. Яго тут многія ведалі і зводдаль жартоўна гукалі, задаючы пустыя, неабавязковыя для адказу пытанні. Заняты сабой, ён болей маўчаў, не дужа ахвотна ішоў да людзей, відавочна шануючы адзіноту на сваім улюбёным, нязручным для рыбалкі, заваленым камянямі абрыве. З гэтага абрыву адкрываўся, аднак, шырокі пагляд на ўвесь ужо ахінуты вечаровым прыцемкам бераг, плаўную паваротку ракі з парожыстым перакатам пасярэдзіне і высокай аркай чыгуначнага моста воддаль, на пакаты схіл і таго берагу, які нанач густа цямнеўся хвойнікам. Трошкі вышэй па рацэ фыркала-грукатала іржавая аграмадзіна землячарпалкі, што ўвесь доўгі дзень цягала з рачнога дна мокрыя кучы жвіру. Але баржа яму, відаць, не замінала.

Яшчэ праз нядоўгі час з-за бетонных апор моста на прыціхлы рачны прастор імкліва вылятала «казанка». Расцягваючы ва ўсю шырыню ракі даўжэзны шлейф кармавой хвалі, яна спрытна мінала перакат і, памалу збаўляючы газ, кіравала да берагу. Яшчэ здалёку было відаць, што ў лодцы сядзела двое — Юра Бартош, хлопец з суседняй вёскі, які працаваў у горадзе і наязджаў у тутэйшыя мясціны палавіць рыбу, і яго гарадскі прыяцель Каламіец, з якім яны ўдвох купілі гэтую срабрыстую «казанку» з новым дваццаціпяцісільным маторам.

Як і заўжды, у той вечар за рулём сядзеў Каламіец, крутаплечы чалавек з шырокімі далонямі рук і цяжкаватым позіркам з-пад доўгага цэлулоіднага казырка насунутай на лоб фуражкі. Паволі збаўляючы абароты вінта, ён упэўнена набліжаўся да берагу, на якім ужо згледзеў адзінокую постаць Пятровіча.

— А ну, падхапі!—крыкнуў ён спыніўшы матор, і яго басавіты голас над ціхай ракой прагучаў дабрадушнай камандай.

— Навошта!— нязгодна прыўстаў за ветравым шклом Юра. — Я сам!..

Ён спрытна перакінуў цераз шкло сваё загарэлае, доўгае, надта худое цела, лёгка саскочыў на водмель, і яны разам з Пятровічам усцягнулі між камянёў на бераг дзюралевы нос лодкі. Затым, пакуль Каламіец перакульваў і зачахляў матор, Юра ў закасаным да каленяў сінім трыко выгружаў з лодкі рукзакі, донкі, падкормку, а стары, бы незнаёмы, стаяў убаку і пільна глядзеў цераз раку на той яе бераг, быццам убачыў там штось дужа важнае. Ён засяроджана, амаль маркотна маўчаў, і яны, занятыя сваёй справай, не звярталі на яго ўвагі. Яны ўжо ведалі, што цяпер ён будзе да змроку паныла ўзірацца ў тое месца на беразе, дзе з маладога хвойнічку збягала да ракі сцяжынка і дзе гойдаліся на раскалыханых «казанкаю» хвалях дзве прымкнёныя да камяня лодкі. Там быў лясны перавоз, але людзей амаль ніколі не было відаць; лодкамі, апроч леснікоў, мала хто карыстаўся.

Калі несамавітае рыбацкае начынне было выгружана на бераг, Каламіец адразу ж, пакуль не зусім змерклася, заняўся сваімі донкамі, а Юра, скалануўшыся ад рачной свежасці, пачаў таропка нацягваць на плечы сіні спартыўны світэр.

— А як у нас з хворастам сёння, Пятровіч?

Стары не адразу адарваў ад таго берагу засяроджаны позірк сваіх выцвілых, слязлівых вачэй і вузлаватымі пальцамі вялікіх спрацаваных рук перабраў роўны рад гузікаў на крысе зацмальцаванага вайсковага кіцеля.

— Трошку назбіраў. Але мала.

Юра па камянях узбег на абрыў, дзе ляжаў невялікі, перавязаны старой вяроўчынай абярэмак хворасту.

— Э, малавата.

— Я так думаю, што з вечара можна і не паліць, — марудна, са старэчым намаганнем уска-

# СТЫЛЬ, КАЛАРЫТ, ГАРМОНІЯ

## БЕЛАРУСКІ ІНТЭР'ЕР — ШТО ГЭТА ТАКОЕ?

У МІНСКУ ў апошні час з'явілася некалькі кафэ, рэстаранаў, магазінаў, інтэр'еры якіх выкананы ў народным беларускім стылі. Назаву некалькі—кафэ «Мядуха», рэстараны «Папараць-кветка», «Нарач», фірменны магазін «Паўлінка». Аўтары інтэр'ераў намагаліся стварыць у іх асяроддзе, якое б адпавядала, па-першае, функцыі памяшкання, па-другое, мела б нейкі індывідуальны, нацыянальны каларыт.

Кафэ «Мядуха» невялічкае. Яно складаецца з некалькіх утульных пакояў, планіроўка якіх сама падказвала аўтарам адзіна правільнае рашэнне—стылізаваць іх пад звычайную беларускую хату, аздобіўшы рэчамі старажытнага сялянскага побыту. Задума гэтая аўтарам шмат у чым удалася. Яны здолелі стварыць у кафэ настрой спакою і нейкай сапраўды хатняй утульнасці. І ў той жа час чыста бытавыя аксесуары не прынізілі агульнага паэтычнага, нейкага нават песеннага гучання інтэр'ера ў цэлым.

Калі заходзіш у кафэ, першае, што кідаецца ў вочы,—стойка, зробленая з вялікіх бочак, на паліцах бара—керамічны посуд. Усё гэта глядзіцца нядрэнна і з'яўляецца як бы візітнай карткай усяго кафэ. Дзве святліцы, у якія мы трапляем потым, аздоблены па-свойму. Першая—упрыгожана вялікімі керамічнымі ўстаўкамі, другая—кафляй і тканымі дыванамі. Свяцільнікі па фрызах нагадваюць старыя газавыя лямпы. «Працуюць» на стварэнне агульнага стылю і нізкія, бы ў сялянскай хаце, столі з цяжкімі бэлькамі, абшытыя простымі дошкамі, і сурвэткі з ільну на сталах, і керамічны посуд, і каласкі жыта ў вазах.

Усё гэта выглядае вельмі прыгожа, але, відаць, не пашкодзіла б, каб аўтары не спыніліся на паўдарозе і больш смела ўвялі такія беларускія прыёмы аздаблення, як, напрыклад, разьба па дрэве. Празмерна гладкія, «залізаныя» плоскасці дрэва глядзяцца зараз у кафэ неяк «пуставата», замест традыцыйнага рэстараннага цюля на вокнах кафэ, відаць, лепей глядзелася б лёгкая льняная тканіна з беларускім арнаментам. Не пашкодзіла б, каб на сталах замест сурвэтак ляжалі прыгожыя беларускія абрусы.

Чаканка па метале ў рэстаране «Нарач».



Інтэр'ер магазіна «Паўлінка».



Інтэр'ер кафэ «Мядуха».

Мне здаецца, што аўтары інтэр'ера магазіна «Паўлінка» здолелі выканаць пастаўленыя перад імі задачы таму, што вельмі смела ўвялі ў інтэр'ер арнамент. Тут арнамент літаральна ўсюды. На столі—ляпны, на сценах—у выглядзе цудоўных вітражоў, на калонах—розныя ўстаўкі з дрэва, у вітрыне—падвясная канструкцыя, якая таксама нагадвае элементы беларускай арнаментыкі. Дэталямі арнаменту робяцца і прылаўкі, на якіх—нацыянальныя тканыя дываны, ручнікі, кашулі, сукенкі, цацкі, кераміка, інкрустацыя. У цэлым магазін нагадвае каштоўную шкатулку, поўную да краёў цудоўнымі, казачнымі рэчамі.

Зала рэстарана «Папараць-кветка» — велізарная. Зразумела, стварыць у ёй беларускі каларыт, карыстаючыся прыёмамі, якія былі дарэчы, скажам, пры распрацоўцы інтэр'ера кафэ «Мядуха», не выпадала. Трэба было шукаць іншы падыход. Відаць, было б добра, калі б аўтары зыходзілі з самой паэтычнай назвы рэстарана і ў вырашэнні яго інтэр'еру ўжылі казачныя, фантастычныя элементы беларускага фальклору.

Але, на жаль, гэтага не адбылося. Дарэмна шукаць у аздабленні гэтага рэстарана хаця б знак беларускай легенды, альбо квітнеючага папаратніка. Зала не ўтульная, нават, сумная. На сталах звычайны посуд, які можна сустрэць у любой сталоўцы, на вокнах усё той жа цюль. Сталы і крэслы таксама з тых, якія можна сустрэць ва ўсіх іншых кафэ і рэстаранах. Такі ж ардынарны і шкляны посуд. А між тым менавіта шкляны посуд, заказаны спецыяльна для гэтага рэстарана, напрыклад, на шклозаводзе «Нёман» і распрацаваны таленавітым мастаком мог бы зрабіцца галоўным акцэнтам аздаблення рэстарана, падказаць аўтарам інтэр'ера шляхі, па якіх яны маглі б ісці, ствараючы сапраўды арыгінальнае, крыху фантастычнае асяроддзе.

Святочнае адчуванне ў «Папараць-кветцы» стварае толькі лесвіца—у ёй ёсць сучасны, дынамічны рытм, графічна выразны кантраст металу, дрэва і бетону. Усе гэтыя дэталі неблагія самі па сабе, усё ж неяк не дапасоўваюцца да агульнага стылю рэстарана, пярэчаць яго песеннай назве.

Дарэчы пра дэталі. Калі мы падыдзем да кафэ «Мядуха» і ўбачым парадную—золатам па чорным — амаль «міністэрскую» шыльду, якая вісіць якраз ля дзвярэй, зробленых з цяжкіх дубовых плашак і аздоблены каванымі ручкамі, заваламі, то зразумеем, што дэталі—зусім не дробязі.

Цяпер пра інтэр'ер рэстарана «Нарач», які, на мой погляд, вызначаецца падкрэсленай элегантнасцю, сучаснасцю. Але гэта зусім не перашкаджае яму несці даволі выразныя нацыянальныя рысы. Ствараецца гэта пры дапамозе дэкаратыўнага акцэнту—ажурнай перагародкі паміж залай і гаспадарчымі памяшканнямі. Перагародка скампанавана з трох чаканных пласцін: «Рыбак», «Рыбы» і «Русалка». Менавіта яны, чаканныя ўстаўкі, чотка і выразна гавораць пра нацыянальную прыналежнасць інтэр'ера. Увага наведвальніка рэстарана не рассейваецца ў пошуках дробных элементаў дэкору. Усё сканцэнтравана тут у адным месцы, чытаецца як адзінае цэлае. Гэты своеасаблівы прыём аздаблення інтэр'ера тут дарэчы, ён апраўданы.

Такім чынам, у стварэнні выразнага нацыянальнага каларыту ў сучасных інтэр'ерах новых мінскіх кафэ, рэстаранаў і магазінаў можна прасачыць дзве асноўныя тэндэнцыі. Адна—чыста этнаграфічная, калі кожная «дробязь» у інтэр'еры падпарадкавана агульнай тэме і, акрамя таго, сама з'яўляецца адмысловым творам прыкладнога мастацтва. У такім інтэр'еры не месца рэчам выпадковым, празмерна стылізаваным. Усё тут павінна быць «сапраўдным», альбо максімальна падобным на «сапраўднае». Зразумела, так можна афармляць толькі невялікія, утульныя памяшканні, накшталт «Мядухі», альбо «Паўлінкі».

Вялікія памяшканні патрабуюць іншага падыходу, у якім галоўнае—агульнае рашэнне, яго дакладная распрацоўка.

У такіх залах дэталі не заўсёды будуць трапляць у поле зроку наведвальніка і, значыцца, не заўсёды будуць падкрэсліваць вобраз інтэр'ера. Таму, відаць, у вялікіх памяшканнях больш мэтазгодна вылучыць нешта адно, але бездакорна дакладнае. У «Нарачы» аўтарам гэта ўдалося, у «Папараць-кветцы» яны нават не паспрабавалі гэтага зрабіць.

З цягам часу ў Мінску з'явяцца, відаць, яшчэ шмат рэстаранаў, кафэ, магазінаў і іншых устаноў грамадскага карыстання, якія будуць аформлены ў нацыянальным беларускім стылі. Таму, мне здаецца, вопыт сённяшніх распрацовак не павінен быць забыты, ён дае шмат матэрыялу для роздуму.

**А. АСІНОЎСКІ.**

раскаўшыся на абрыў, ціха загаварыў Пятровіч. — Пад ранак лепш. На золаку. З вечара людзі ўсюды, калі што — памогуць. А як пад ранак паспяць, хто паможа?..

Цяжка валюхаючы ў кірзавых ботах, ён адышоўся на тры крокі ад абрыва і сеў. З расстаўленых каленяў звесіў свае пакручастыя, быццам карані, рукі; пакутлівы позірк яго хутка абмінуў раку і звыкла спыніўся на тым яе беразе з лодкамі.

— Яно можна і пад ранак, — згадзіўся Юра. — Але і ноччу б не шкодзіла. Можа я падскочу, таксама чаго пашукаю ў рове?

— Ноччу б, ведама, лепш... А то як пазнаюць? Раней дык вунь хутар быў. А цяпер няма. І гэты мост новы... Незнаёмы.

— Вось іменна.

— Маленькае хаця б вогнішча. Абы тлела — будзе відаць.

— Павінна відаць. Дык я збегаю, пакуль не сцямнела! — крыкнуў Юра з абрыву, і Каламіец унізе, які начапляў прынаду, незадаволена павярнуў галаву.

— Ды кінь ты з гэтымі вогнішчамі! Пакуль не сцямнела, давай лепш пазакідаем! А то агонь — патрэба такая! Вунь кухвайка ёсць!

— Ладна, я зараз... — кінуў Юра і спрытна палез па камянях да прыцьмелага ў раўку алешніку.

Стары моўчкі прыціх на абрыве, і яго аброслы шызаю шчэццю твар набыў выраз даўняй звыклай задумлівасці. Ён доўга напружана маўчаў, машынальна перабіраў пальцамі зашмальцаваныя берагі кіцеля з чырвоным кантам па краі; слязлівыя вочы яго праз пагусцелыя прыцемкі ўпарта глядзелі ў зарэчча. Каламіец унізе размахваў канцом вуды і спрытна закінуў яе ў масляністую гладзь вады. Бліснуўшы капронавай ніткай, грузіла з ціхім пляскам нырнула ў раку.

— Ты во што, дзед! — рэзкім голасам сказаў ён пад абрывам. — Кінь дурня строіць! Камедзію іграць! Ніхто ўжо адтуль не прыйдзе. Паняў?

Пятровіч на абрыве лёгенька схамянуўся, нібы ад сцюжы, пальцы яго на грудзях знерухомелі, і ўся яго худая, кашчавая пад кіцелям постаць, жаласна сцялася. Але позірк яго па-ранейшаму быў скіраваны да зарэчнага берагу, на гэтым, здавалася, ён не заўважаў нічога і быццам бы нават і не чуў няласкавых слоў Каламійца. Каламіец тым часам звыклай рукой закінуў у ваду яшчэ дзве або тры донкі, уваткнуў у бераг кароткія, з малюсенькімі званкамі вудзільны.

— Яны ўсе цябе, дурня, за нос водзяць, патакаюць. А ты і верыш. Прыйдуць! Хто прыйдзе, калі ўжо вайна вунь калі скончылася! Падумай сваёй башкой!

На рацэ прыкметна цямнела, шэрая постаць Каламійца невыразна варушылася ля самай вады. Болей ён нічога не сказаў старому і ўсё корпаўся з прынадай і вудамі, а Пятровіч, нейкі час пасядзеўшы моўчкі, загаварыў з застарэлым болем у голасе:

— Дык гэта малодшы, Толік... Вачамі хварэў. Як змеркнецца, нічога не бачыць. Старшы, той бачыў добра. А калі са старшым што?..

— Што са старшым, тое ж і з малодшым! — груба абарваў яго Каламіец — Вайна, яна ні з кім не лічылася. Ды яшчэ ў блакаду.

— Ну, — проста пагадзіўся стары. — Акурат блакада была. Толік з вачамі тыдзень дома пабыў, аж прыбягае Алесь. Кажа: абклалі з усіх бакоў, сілы мала. Ну і пайшлі. Малодшаму шаснаццаць было. Астацца прасіў — ні ў якую. Як немцы ўбяруцца, сказалі агонь раскласці...

— Ось галава! — здзівіўся Каламіец і нават прыўстаў ад сваіх донак. — Сказалі раскласці!.. Калі гэта было?!

— Ды на Пятроўку. Акурат на Пятроўку, ага...

— На Пятроўку! А колькі таму гадоў мінулася, ты кумекаеш?

— Гадоў?

Стары, падобна было, з нейкай натугай здзівіўся і, здаецца, упершыню за вечар адарваў свой пакутлівы позірк ад ледзьве прыкметнай у прыцемках лясной лініі берагу.

— Ага. Гадоў? Гэта ж дваццаць пяць год мінула, галава яловая!

Грымаса глыбокага болю зморшчыла старэчы твар Пятровіча. Вусны яго зусім па-дзіцячы крыўдліва скрывіліся, вочы хуценька зацепалі, і погляд разам патух. Відаць, толькі цяпер да азмрочанай яго свядомасці пачаў марудна даходзіць увесь страшны сэнс яго шматгадовай памылкі.

— Дык гэта... Дык гэта як жа?..

Напяўшыся ўвесь у якімсь намаганні, ён, мабыць, хацеў і не мог выказаць нейкую важную сваю думку, і ад гэтага непасільнага напружання позірк яго стаў нерухомы, страціў усякі сэнс і зышоў з таго берагу. Стары ўвачавідкі абвяў, азмрачнеў яшчэ болей, увесь зацяўся ў сабе. Напэўна, унутры ў ім было нешта такое, што надоўга скавала яго нерухомасцю і нематой.

— Я табе кажу, кінь гэтыя забаўкі, — корпаючыся ля вудаў, пераконваў унізе Каламіец. — Рабят не дажджэшся. Амба абодвум. Ужо дзе-небудзь і костачкі згнілі. Ось так!

Стары маўчаў, як аглух. Заняты сваёю справай, змоўк і Каламіец. Змрок бліскае ночы хутка паглынаў бераг, хмызняк; з прырэчных равоў папаўзлі шызыя космы туману, лёгкія дымчастыя струмені яго пацягнуліся па ціхім плёсе. Хутка цямнеючы, рака губляла свой дзённы бляск, змрочны той бераг шырока перакуліўся ў яе глыбіню і заліў рачную паверхню гладкай блішчастай цемрай. Землечарпалка перастала грукатаць, зрабілася зусім глуха і ціха, і ў гэтай цішыні тоненька і нясмела, як з невядомае далёкай далечы, дзынкнуў маленькі званочак донкі. Захлябаўшы па камянях падэшвамі гумовых ботаў, Каламіец кінуўся да крайняй на беразе вуды і таропка заматляў рукамі — пачаў даставаць з вады лёску. Ён не бачыў, як Пятровіч на абрыве трудна падняўся, хіснуўся і згорблена, моўчкі пабрыў кудысь — прэч з гэтага берагу.

Напэўна, у цемры стары недзе размінуўся з Юркам, каторы неўзабаве паявіўся на абрыве, кінуў пад ногі траскотнае бярэма хворасту — вялікае бярэма побач з маленькай вязанкай Пятровіча.

— А дзе дзед?

— Глядзі, якога ўзяў! — пачуўшы сябра, бадзёра загаварыў пад абрывам Каламіец. — Колбік што трэба! Паўкіла пацягне.

— А дзе Пятровіч? — адчуўшы нядобрае, паўтарыў сваё пытанне Юра.

— Пятровіч? А хто яго... Пайшоў, мабыць. Я сказаў яму...

— Як? — Юра аслупянеў на абрыве. — Што ты сказаў?

— Усё сказаў. А то водзяць за нос. Патакаюць...

— Што ты нарабіў? Ты ж прыкончыў яго.

— Ды ўжо ж — прыкончыў. Жывы будзе!

— От жа калун! От жа тумак! Я ж табе казаў! Яго ж тут берaглі ўсе! Ашчаджалі. А ты?..

— Што там ашчаджаць... Хай праўду ведае.

— Такая праўда яго даканае. Яго ж сыноў абодвух забілі ў блакаду. А перад тым ён іх сам вунь туды на лодцы адвёз. І чакае.

— Чаго ўжо чакаць?

— А што ж, лепш не чакаць? Як жа яму тады жыць? Эх ты!

— Ну ладна, ладна...

— Ды не ладна! Пайшоў ты, ведаеш куды! Дзе мой рукзак?

Пад завалочаным цемрай абрывам пачуўся ціхі стук камянёў пад нагамі, рэзкі лязг ланцуга па гулкай абшыўцы лодкі і некалькі крокаў, якія хутка заціхлі ўначы. Над берагам запанавала цішыня. Ледзьве паблісквaючы аспіднай паверхняй, цякла ў вечнасць рака, і паступова ў розных мясцінах, на нябачных у змроку яе берагах, блізка і далёка загараліся кастры рыбакоў. Сярод іх у той вечар не загарэўся толькі адзін — на абрыве насупраць лясного перавозу, дзе да ранку было незвычайна пустынна і глуха.

Не загарэўся ён і ў наступную ноч.

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# ЁСЦЬ ЧАМУ ПАВУЧЫЦЦА

У апошнія гады я шмат езджу па краіне. Быў і на поўдні, і на поўначы. І ўсюды — у Сярэдне-Азіяцкіх рэспубліках, у Прыбалтыцы, на Украіне, у Расійскай Федэрацыі — увачавідкі пераконваешся, якія арганічныя творчыя ўзаемасувязі мастакоў усіх нашых братніх рэспублік.

Вось і ў Рызе нядаўна адбылася арыгінальная выстаўка твораў скульптуры мастакоў Латвіі, Эстоніі, Літвы, Ленінграда, Масквы.

Узровень паказаных работ — вельмі высокі — пераконваў, што наша савецкая скульптура мае немалыя здабыткі, што яна не стаіць на месцы. Нямала ў экспазіцыі было работ, якія сведчылі пра пошукі скульптарамі новага як у змесце, так і ў форме.

Удалыя пластычныя рашэнні паказалі мастакі Масквы і Ленінграда. Наведвальнікі выстаўкі падоўгу спыняліся ля работ скульптараў К. Белашовай «Мая дарагая», Ю. Чарнова «Браты Знаменскія», А. Белашова «Сава».

Разнастайныя эксперыментальныя рашэнні прапанавалі мастакі Прыбалтыкі. Высокая культура формы, глыбокае разуменне дэкаратыўных уласцівасцей матэрыялаў у работах А. Тулбіса «Дым», Э. Війеса «Мастак», О. Скарайніса «Памяць».

Праўда, некаторыя пошукі ў галіне формы памянёных прыбалтыйскіх скульптараў азадачваюць гледачоў. Не заўсёды ясны змест той ці іншай задумы мастака.

Але на выстаўцы, зразумела ж, пераважалі цудоўныя рэалістычныя скульптуры з глыбокім вобразным зместам, з адмысловым пластычным рашэннем.

Даўно наспеў час і нам, у нашай рэспубліцы, наладжваць такія выстаўкі. Творчае супрацоўніцтва некалькіх рэспублік заўсёды карыснае, прыносіць плён і мастакам, і — у першую чаргу — гледачу. Так, напрыклад, мы маглі б наладзіць выстаўкі беларускай і ўкраінскай графікі, беларускага і прыбалтыйскага жывапісу — ды хіба мала змястоўных выставак такога плана можна наладзіць! Мабыць, варта, каб Саюз мастакоў БССР планаваў такія выстаўкі

Я. КРАСОЎСКІ, мастак.

# У МАЙСТРОЎ «ЛЯСНОЙ СКУЛЬПТУРЫ»



Л. ЧАРНЯЎСКІ. Падсвечнік «Вясталка».

Фігуркі з каранёў, кары, разнастайных абломкаў дрэва набылі ў Мінску вялікую папулярнасць. Выстаўка «Прырода і фантазія», адкрытая ў памяшканні станцыі юных натуралістаў, — ужо другая сёлета экспазіцыя работ «лясных скульптараў».

Сказаць пра яе «цікавая» — значыць не сказаць амаль нічога. Большасць з нас і не падазраюць, як можа загаварыць, здавалася б, зусім непрыдатны кавалак дрэва ў руках умельца. Зрэшты, пройдзем па зале...

Розныя аўтары, розныя работы. Вось Сяргей Дубравін — маштабнасць, размах, упэўненасць. Яго кампазіцыі шматпланавыя, шырока размешчаныя ў прасторы. Фелікс Алееў выдатна адчувае лінію. Яна ў яго — гнуткая, вытанчаная — нібы цячэ, пераліваецца, несучы ў сабе тое багацце экспрэсіі, якое робіць твор сапраўды мастацкім. Гэткія ж вытанчаныя формы і ў работах Георгія Барашкі. Работы Залмана Ліса вызначаюцца мініяцюрнасцю, адпрацаванасцю дэталяў, Мікалая Ерафеева — складанасцю задумы...

Некалькі ў баку ад агульнага напрамку выстаўкі стаяць работы Стэфаніі Станюты — што, зрэшты, зусім не робіць іх менш прывабнымі. Гэта — біжутэрыя. Кулоны, бусы з семак, зерняў, костачак, кавалкаў кары, выкананыя з фантазіяй (у матылька на кулоне, напрыклад, крылы — ракушкі) і з вялікім густам. Нават не верыцца, што ўсё гэта — з лесу...

Матывы твораў удзельнікаў выстаўкі таксама розныя. Але больш за ўсё, бадай, казачных, фантастычных. Увогуле, гэта і не дзіўна: незвычайныя формы кавалкаў дрэва, выбраных аўтарамі апрацоўкі, натхняюць на незвычайнае. Вось і бачым мы «Нарачанскага чорта» (Л. Чарняўскі), «Персанажаў з 1001 ночы» (Н. Буланаў), «Гнома» (А. Яўсеева)... Адны з твораў — амаль зусім незакранутыя інструментам карані ці галінкі («Жар-птушка», «Бугай» Г. Барашкі, «Ча-ча-ча» Н. Буланава).

Хто ж аўтары выстаўкі?

— Прафесійных мастакоў сярод нас амаль няма, — расказвае старшыня секцыі прыроды і творчасці пры Мінскім гарадскім аддзяленні таварыства аховы прыроды Л. Чарняўскі. — Так чамусьці атрымалася, што большасць удзельнікаў — інжынеры. Узрост самы разнастайны. Ёсць пенсіянеры, ёсць і студэнты. Усіх аб'ядноўвае любоў да прыроды і мастацтва.

— А ці даўно існуе ваша секцыя?

— Год. Пакуль што ў ёй каля сарака членаў, але секцыя расце. Пасля першай выстаўкі — за тую экспазіцыю мы, дарэчы, атрымалі вышэйшую ўзнагароду на ВДНГ у Маскве — да нас прыйшлі А. Яўсеева, Т. Кепецева, З. Ліс, В. Сушынская, А. Макараў, Л. Угрыновіч... Наша мэта — шырокая прапаганда мастацтва «лясной скульптуры».

І што вы робіце для гэтага?

— Акрамя выставак рэгулярна праводзім кансультацыі. Ужо ёсць дамоўленасць з Домам піянераў аб стварэнні там студыі «лясной скульптуры». Некалькі лекцый прачытаем і ў Мінскай дзіцячай мастацкай школе.

— Вашы «выставачныя» планы?

— Наперадзе — абласная выстаўка, якая пачнецца ўжо ў канцы гэтага месяца. Потым, у снежні, — рэспубліканская. Ну, і нарэшце — зноў Масква...

М. КАЛОМЕНСКІ.



Ф. АЛЕЕЎ. Заўтра першы палёт.

# «ДРУЖБА НАРОДОВ», ГОД 1973

У сям'і тоўстых літаратурна-мастацкіх і грамадска-палітычных перыядычных выданняў часопіс «Дружба народов» займае асобае месца. Галоўная яго задача — садзейнічаць умацаванню і развіццю ўзаемасувязей і ўзаемадзеяння літаратур народаў Савецкага Саюза, знаёміць чытача з нашай шматнацыянальнай савецкай літаратурай.

У 1973 годзе часопіс пазнаёміць сваіх чытачоў з творамі, якія глыбока раскрываюць багацце шматнацыянальнай савецкай літаратуры, ствараць карціну разнастайных мастацкіх пошукаў.

Сучасная руская проза ў часопісе падасца раманам Сяргея Барадзіна «Маланкавы Баязет» — трэцяй кнігай эпапеі «Зоркі над Самаркандам».

Аб жыцці сучаснай вёскі, яе сацыяльных пераўтварэннях, зрухах у свядомасці людзей раскажа раман маладога азербайджанскага празаіка Сабіра Ахмедава «Мера зямлі». У каларытны свет горнага аула, дзе востра сутыкаюцца старое і новае, перанясе аповесць Меджыда Гаджыева «Раскаянне» — першы ў часопісе твор лакскай літаратуры.

Багаты паэтычны аддзел часопіса: паэмы і вершы Яраслава Смелякова, Міхаіла Луконіна, Леаніда Мартынава, Максіма Танка, Петруся Броўкі, Мустая Карыма, Давіда Кугульцінава, Кайсына Куліева, Барыса Слуцкага, Эдуардаса Межэлайціса, Іны Кашэжавай, Рымы Казаковай, Андрэя Вазнясенскага, Яўгена Еўтушэнкі і інш.

У аддзеле публіцыстыкі і нарыса працягнецца абмеркаванне найбольш актуальных і вострых пытанняў грамадска-палітычнага жыцця, праблем эканамічнага і культурнага будаўніцтва ў святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС.

Вялікую ўвагу рэдакцыя ўдзеліць выкрыццю выдумак буржуазных «спецыялістаў» па «вывучэнні» жыцця народаў СССР.

У пастаяннай рубрыцы «Адвага» друкуюцца мемуары выдатных палкаводцаў, ветэранаў рэвалюцыі, удзельнікаў грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, а таксама дакументальныя аповесці і нарысы аб подзвігах савецкіх патрыётаў. У прыватнасці, будуць апублікаваны мемуары былога начальніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху П. К. Панамарэнкі.

Аддзел культуры і мастацтва ў сваіх матэрыялах асвятляе пытанні развіцця шматнацыянальнага савецкага кіно і тэатра, радыё і тэлебачання, выяўленчага мастацтва і народнай мастацкай творчасці, праблемы гарадскога будаўніцтва, архітэктуры, эстэтыкі.

Пастаяннае месца на старонках крытычнага раздзела зоймуць спрэчкі аб новых кнігах і новых з'явах у літаратуры.

Часопіс працягне выданне бібліятэкі «Дружбы народов». У 1973 г. выйдуць чарговыя 15 тамоў, у тым ліку раман Петруся Броўкі «Калі зліваюцца рэкі».

# І ЎСЁ Ж ВЯНОК— ЦЯРНОВЫ...

САМО ІМЯ КУПАЛЫ нам, беларусам, здаецца музыкай. То сцішанай і чароўнай, сатканай з гукаў і фарбаў роднай зямлі, то бунтарскай і неўтаймаванай, нібы покліч вечавога звона, то ўрачыстай і ўладарнай, як велічны народны гімн «Слаўся» з фіналу оперы Міхаіла Глінкі «Іван Сусанін». І ў квецень, і ўзамець мы бярэм з паліцы купалаўскую кніжку, каб розумам і сэрцам далучыцца да вялікага таінства, імя якому Мастацтва, і вярнуць з яго дапамогай душэўны спакой і раўнавагу.

**Ці трэба казаць у сувязі з гэтым, якую цікавасць уяўляе кожная кніжка, кожнае даследаванне, прысвечанае Янку Купалу. Мы разгортваем іх з надзеяй адшукаць для сябе дасюль невядомае, прачытаць новае хвалюючае слова пра народнага песняра. З гэткай надзеяй бярэм мы ў рукі і манаграфію Алеся Есакова «Янка Купала і Беларускі тэатр». Значнасць тэмы ўсім вядомая. Янка Купала прыняў актыўны ўдзел у закладцы падмурку беларускай драматургіі, даў высокія ўзоры камедыі і драмы. Яго імя сёння носіць славуты Беларускі акадэмічны тэатр, а «Паўлінкай» і пачынаюцца гастролі, і адкрываецца кожны новы тэатральны сезон.**

Надзеі знайсці новыя факты і думкі, прачытаць нешта дасюль невядомае ў пэўнай меры спраўджваюцца. І ў першую чаргу таму, што Алесь Есакоў вывучаў творчасць Купалы не па адных гатовых літаратурных крыніцах. Ён імкнецца не толькі аналізаваць друкаваныя радкі, але і вывучае асяроддзе, якое акружала Купалу, даследуе гістарычныя працэсы, што матывавалі з'яўленне канкрэтных твораў, шукае прататыпы вобразаў і вытокі шматколернага моўнага багацця купалаўскай драматургіі.

Даследчык разумее сілу факта. Робячы заключэнні і абагульненні, ён то ідзе да іх ад факта, то падмацоўвае развагі фактамі. Гэта чытач адчувае з самага пачатку кнігі. Ведучы гаворку пра ўсенародную вядомасць пісьменніка, даючы абагульненыя высновы, Алесь Есакоў, каб паказаць, як здабывалася вядомасць, тут жа пераходзіць на апісанне канкрэтнай падзеі. Дваццатыя гады. Выхаванцы мінскага дзіцячага дома на канцэрце мастацкай самадзейнасці шчыра чытаюць вершы Янкі Купалы. Паэт уважліва слухае выканаўцаў, падтрымлівае іх сваёй усмешкай. Ён, ужо ў той час вядомы і прызнаны, не пашкадаваў часу і ахвотна прыйшоў да дзяцей, пагутарыў з імі, адказаў на пытанні. Вось гэта—надзвычай дзейсны публіцыстычны прыём, якім з поспехам карыстаюцца літаратуразнаўцы і мастацтвазнаўцы. Праекцыя на канкрэтны факт высвечвае ў дэталях усю з'яву і нібы матэрыялізуе думку, якую развівае аўтар, надаючы ёй рэальныя абрысы.

Слушна раскрывае Алесь Есакоў творчую лабараторыю Янкі Купалы пад час работы над «Паўлінкай». У заўвагах да п'есы адзначаецца, што напачатку сярод яе дзеючых асоб Адольфа Быкоўскага не было. Яго месца займаў Станіслаў Пустарэвіч. І, відавочна, побач з лініяй Паўлінка—Якім намячалася разгарнуць лінію Паўлінка—Станіслаў. Акрамя таго, адзначае даследчык, аналізуючы першы чарнавы варыянт «Паўлінкі», у п'есу меркавалася ўвесці вобразы дваццацігадовай сястры Паўлінкі Кастусі і дваццацітрохгадовага суседа Крыніцкіх Мікіты Кутаса. Гэта сведчыць, што Купала задумаў было «Паўлінку» выключна як бытавую камедыю.

**Але віхурны час уладарна патрабаваў свайго (п'еса напісана ў 1912 годзе), і пясняр, у паэзіі якога ўжо гучалі ва ўсю моц рэвалюцыйна-дэмакратычныя, бунтарскія матывы, не мог у драматургіі абмежавацца тэмай кахання, аздобленай камічнымі бытавымі сітуацыямі. Пачаліся настойлівыя пошукі, прычым пошукі ў зададзеным напрамку: як, не адмаўляючыся ад першапачатковай задумы, узмацніць сацыяльныя матывы твора. Гэта Купалу цалкам удалося. І зусім справядліва Алесь Есакоў, палемізуючы з асобнымі рэжысёрамі, якія адвольна трактавалі п'есу і спрабавалі ставіць на яе аснове лёгкія вадэвілі, так вызначае сутнасць купалаўскага твора: «Паўлінка» не проста лёгкая камедыя, а разнапланавая камедыя, дзе ёсць лірычнае і сатырычнае, драматызм і камізм, якія характарызуюць сацыяльны час, эпоху, асяроддзе і класавыя ўзаемаадносіны людзей, дзе ёсць і высокая мараль кахання і адносіны да яе» (стар. 136).**

Ударную сілу сацыяльна завостранай камедыі зразумелі і працоўныя беларусы, сярод якіх нарастаў актыўны пратэст супраць царызму, прыгнёту, сталыпінскай рэформы, і іх ворагі. Беларускія буржуазныя нацыяналісты імкнуліся зганіць, прынізіць п'есу. Пры гэтым, як падкрэслівае Алесь Есакоў, некаторыя з іх карысталіся езуіцкімі сродкамі. Так, Ф. Аляхновіч пераявярнуў «Паўлінку» на свой капыл, напісаўшы п'еску «Заручыны Паўлінкі», у якой мірыць Якіма Сароку са Сцяпанам Крыніцкім, шляхціца Быкоўскага перарабляе ў звычайнага жуліка, згладжвае ўсе класавыя супярэчнасці. Даследчык прыводзіць цікавы дакумент пазнейшага часу—перыяду Вялікай Айчыннай вайны, які засведчвае, што і немцы разам са сваімі паслугачамі зразумелі палітычную, сацыяльную накіраванасць камедыі і забаранілі ставіць яе на сцэне.

З цікавасцю чытаюцца ўспаміны першай выканаўцы ролі Паўлінкі П. Мядзёлкі і каментарыі да іх аўтара манаграфіі. Чытачу ў сціслай форме перадаецца атмасфера, што панавала ў Пецярбургскім зямляцтве беларускіх студэнтаў пад час пастаноўкі «Паўлінкі», паказваецца, якую зацікаўленую дапамогу аказваў акцёрам сам Янка Купала. Новыя факты прыводзіць даследчык і аб рабоце рэжысёра М. Папова, які ставіў купалаўскую п'есу «Тутэйшыя» ў БДТ-1. Пераканаўчыя і шчырыя старонкі кнігі, зробленыя па ўспамінах старэйшых беларускіх актрыс Л. Ржэцкай і І. Ждановіч. Увогуле фактычны матэрыял, што датычыць гісторыі пастаноўкі п'ес «Паўлінка», «Прымакі», «Раскіданае гняздо», «Тутэйшыя», — і апрабаваны, і новы, уведзены аўтарам, — з'ядноўваецца, за малым выключэннем, у даволі паслядоўны ланцужок. Асабліва яскрава гэта адчуваецца ў раздзеле «Да сцэнічнай гісторыі твораў Янкі Купалы».

Пра іншыя ж раздзелы і аспекты тэмы манаграфіі гэтага, на жаль, сказаць нельга. Алесь Есакоў паставіў сваёй задачай паказаць, што Янка Купала прыйшоў у драматургію як паэт, у першую чаргу—праз свае драматычныя паэмы. Што ж, такі аспект даследавання цікавы і надзвычай цяжкі. Патрэбны шматгадовая аналагічная работа і спалучэнне багатага вопыту гісторыка літаратуры і тэатра, літаратуразнаўцы і мастацтвазнаўцы, каб прасачыць адзіныя вытокі купалаўскай паэзіі і драматургіі, шляхі іх развіцця і ўзаемадзеяння, ідэйна-мастацкую маналітнасць.

**Даследчык жа, як вынікае з раздзела «Драматычныя элементы ў паэзіі Купалы» і часткова з раздзела «Драматургія Янкі Купалы», звязвае вузел літаратуразнаўча - мастацтвазнаўчых праблем далёка не «марскім» спосабам, а, мякка кажучы, даволі спрошчана. Ці трэба было ў кнізе, тэма якой канкрэтна вызначана загалоўкам — «Янка Купала і Беларускі тэатр», даваць агляд дакастрычніцкай паэзіі Янкі Купалы, цытаваць вершы «Мужык», «Песня вольнага чалавека», «А хто там ідзе?» пералічваць назвы дзесяткаў твораў і пераказваць іх змест? Відаць, не. Тым больш, што ніякіх адкрыццяў пры гэтым Алесь Есакоў не робіць. Магчыма, ён кіраваўся прынцыпам, што паўтарэнне—маці вучэння. Але ж гэта хутчэй датычыць школьнікаў, а не вучоных даследчыкаў.**

Пасля беглага агляду творчасці паэта даследчык прапануе чытачу падраздзел «Драматычныя паэмы — подступы да новага жанру». Здавалася б, нарэшце адбыўся пераход да канкрэтнай гаворкі па тэме даследавання. Але зноў мы бачым пераказ зместу твораў, зноў губляецца нітка расказу, і Алесь Есакоў, паспеўшы ўсё ж сказаць, што Янка Купала прыйшоў у драматургію праз драматычныя паэмы, пачынае доўгую гаворку пра... апавядальныя паэмы. Ну, навошта? Навошта пераймаць звычкі заўзятых вадаліваў, якія, падахвоціўшыся прачытаць лекцыю аб Грэнландыі, абавязкова пачнуць з апісання прыродных дзівосаў Аўстраліі ці Берага Слановай Косці?

Чытаючы раздзелы кнігі, раз-пораз спатыкаешся аб груваcткія моўныя канструкцыі, у якіх словы сутыкаюцца нібы айсбергі, а думка робіць незвычайныя зігзагі. Вось адзін з такіх узораў: «Драматычная паэма «Адвечная песня» ўяўляецца нам творам двухпланавым (?), у ёй рэалізм увесь час дапаўняецца народнай сімволікай. З алегарычнымі фігурамі мы сустракаемся ў экспазіцыі-завязцы, у даволі маляўнічых праявах развіцця дзеяння—сталага жыцця селяніна і нарэшце ў эпілогу ці, правільней кажучы, у разгорнутай развязцы. Такія рысы з'яўляюцца не выпадковымі, яны сведчаць аб своеасаблівасці стылю драматычных паэм Купалы, які ў некаторай ступені выявіўся і ў яго драматургіі, што з'яўляецца, як мы ўбачым далей, адзнакай яго творчага метаду мастака рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку, які з цягам часу становіцца на пазіцыі сацыялістычнага рэалізму» (стар. 24). Прачытаеш такое—і нібы гару з плеч зваліш. А пачнеш дакапвацца сэнсу—і дзіву даешся. Аказваецца, Янку Купалу, каб стаць у шэрагі мастакоў рэвалюцыйна - дэмакратычнага кірунку, якія ў наступным прынялі метад сацыялістычнага рэалізму, дастаткова было рэалізм «увесь час» дапаўняць народнай сімволікай. Во як!

**Варта прывесці яшчэ некалькі сказаў, каб пераканацца, што працытаваны ўрывак не выключэнне. Чытаем: «Матэрыял, набыты пісьменнікам, арганічна ўкладваўся ў драматычную форму, дзе сцэнічныя элементы спалучаліся з паэтычнымі і, дзякуючы крытычнаму рэалізму і рэвалюцыйнаму рамантызму, рабілі твор узнёслым, абагульненым» (стар. 18); «Разам з тым робяцца намёкі на часовыя няўдачы, звязаныя з надзеямі, якія ўскладаў народ на першую рускую рэвалюцыю» (стар. 26): «У цэнтры ўвагі аўтара асноўны герой—Сам. Яго лёс развіваецца ў дзейсным імкненні» (стар. 29): «Русалкі да Сама адносяцца насцярожана, але спачувальна. Толькі дапамагчы яму не могуць, таму што самі фактычна ахвяры тагачаснага грамадства» (стар. 30); «Праз вобразы русалак, відмаў і Чорнага паказваецца тагачасная рэчаіснасць у адмоўным плане» (стар. 31); «У мастацкіх адносінах гэта не толькі бытавыя дэталі, яны ствараюць карціну ўсхваляванасці і трывогі, але адны з іх выглядаюць як вобраз самога жыцця, другія ж адыгрываюць ролю сацыяльнага фону» (стар. 32); «Дынамічнасць дыялога залежыць ад моўнай інтанацыі таго ці іншага персанажа» (стар. 36); «Падобныя п'есы пра няўдалае каханне напісаны М. Крапіўніцкім і М. Старыцкім, якія будавалі свае драмы на ўкраінскай народнай творчасці» (стар. 48); «...функцыі галоўнага героя прымае на сябе Паўлінка як прадаўжальнік ідэй Якіма» і г. д. і да т. п.**

Часам Алесь Есакоў робіць такія наіўныя вывады, што ад здзіўлення ажно рукі разводзіш. Мяркуйце самі: «...развіццё беларускай камедыі, як і наогул нацыянальнай драматургіі ў Беларусі, залежала ад народнай паэтыкі, таму што, адлюстроўваючы народнае жыццё, яно інакш і не магло быць» (стар. 60). Нібы запазычана з чэхаўскага «Ліста да вучонага суседа». Даследчыку часта не хапае дакладных і ясных слоў, каб выказаць сваю думку. Адзначыўшы, напрыклад, на стар. 84, што асобныя крытыкі (М. Ярош, У. Няфёд, А. Саннікаў) лічаць прымірэнцтва асноўным матывам вобраза Марылі з «Раскіданага гнязда», Алесь Есакоў задае рытарычнае пытанне: «Але ці так гэта?». Ну, думаеш, зараз пачынаецца навуковая спрэчка. Чытаеш адну старонку, другую, трэцюю... Няма спрэчкі! Быццам недзе далёка-далёка мільгаюць іскрынкі думкі, але вылавіць іх з шаматкога шматслоўя проста немагчыма...

У заключным падраздзеле «Янка Купала і беларуская драматургія (назіранні, пошукі і вопыт пастаноўкі праблемы)» аўтар манаграфіі меў намер паказаць, як творчы вопыт Янкі Купалы ўплывае на развіццё ўсёй беларускай драматургіі. Аналіз, скажам прама, не ўдаўся. Яскрава даведзена толькі тая абставіна, што гэта праблемнае пытанне ў нас амаль не распрацавана. Капітальнай распрацоўкі не зрабіў і Алесь Есакоў, абмежаваўшыся пры разглядзе ўплыву купалаўскіх традыцый на развіццё сучаснай драматургіі фрагментарнымі штрыхамі, прыватнымі заўвагамі.

СТВАРАЕЦЦА ўражанне, што кніга «Янка Купала і Беларускі тэатр» напісана двума аўтарамі. Адзін з павагай і пашанай уплятаў у вянок Янку Купалу ласкавыя кветкі, а другі настойліва і ўпарта торкаў паміж кветкамі ўдубелыя церні.

**Барыс СТРАЛЬЦОЎ.**

---

Алесь Есакоў «Янка Купала і Беларускі тэатр». Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1972.

# ЗА ПРАВА ПЕРША-АДКРЫЦЦЯ

Я маю вочы. Цэлая
планета
Ўрываецца праз вейкі-
капяжы.
І непакоіцца вачам паэта—
То сонца ў іх, то горкія
дажджы.

Гэта радкі з новага зборніка Мар'яна Дуксы «Крокі». Яны напісаны ў характэрнай для паэта манеры — тут і ўмоўна-планетарны маштаб, і імкненне да канкрэтнасці лірычнага перажывання. Паэт шукае сувязь паміж чалавекам і светам, ён хоча мець свой погляд на жыццёвыя з'явы, зразумець іх прыроду. Наколькі плённы гэты пошук? Мне здаецца, у лепшых вершах М. Дуксы ёсць **сваё** адчуванне паэтычнага ў жыцці, малады аўтар дасягае нават пэўнага філасафічнага абгрунтавання думкі. Вось прыклад:

Не ясна, што там за гарой...
Таксама вечар наступае?
Ружовасць цэдзіцца
скупая,
Што называецца зарой.

Усё-ткі, што там за гарой?
Ці проста доказ: свет
бясконцы...
Хоць дзед услед жыццю і
сонцу
Глядзіць з-пад яблыні
старой.

У сіняве пчаліны рой.
Над лугам ластаўкі і кані.
Святло апошняга
растання —
Усё засталося за гарой...
(«Не ясна, што там за
гарой»...).

Мар'ян Дукса часта піша аб роднай зямлі, яе жыццядзейным характве. Простая і шчырая паэтава споведзь: «Каб мог я раніцою прычасціцца святлом найчыстым ад тваіх бяроз, каб бачыць сосны, блізкія да болю, што безыменны абнялі капец...» («Беларусі»).

Чытаючы зборнік, можна скласці пэўнае ўяўленне аб мясцінах, дзе пабываў паэт, людзях, з якімі ён сябраваў. Вершы носяць ясны адбітак сучаснасці, вясковага жыцця з яго простым і мудрым раскладам працоўных будняў. Прыемна, што малады аўтар, выбіраючы сродкі паэтычнай выразнасці, у большасці выпадкаў пазбягае гульні ў знешнюю вобразнасць, уяўную глыбакадумнасць, а любіць дасціпнае слова, трапнае азначэнне.

---

Мар'ян Дукса. «Крокі». Вершы. Выдавецтва «Беларусь», Мінск. 1972.

# А ДЗЕ Ж СВАЁ?

У выдавецкай анатацыі да новага зборніка апавяданняў В. Хліманава «Арыядніна нітка» недвухсэнсоўна гаворыцца, што «аўтар імкнецца па-свойму раскрыць складаны свет чалавечых пачуццяў і трывог». Намеры самыя што ні ёсць добрыя.

І вось першае апавяданне зборніка з даволі няпэўнай назвай «Сітуацыя». Тэма старая, як і само жыццё: узаемаадносіны двух маладых людзей. Іх пачуцці, калі верыць аўтару, самыя светлыя і чыстыя. Герой апавядання — малады хлопец, шафёр Пашка Купрэйчык — у тым узросце, калі нейк нечакана прыходзіць каханне, калі трэба цвяроза, па-чалавечы вызначыць свае адносіны да дзяўчыны.

Пры ўважлівым падыходзе да тэмы, пры стараннай распрацоўцы характараў герояў ад пісьменніка можна было б чакаць цікавай гісторыі пра нашага маладога сучасніка, бо, зрэшты, галоўнае — не **што** сказаць, а **як** сказаць.

На жаль, у В. Хліманава ўсё зводзіцца да жадання выказацца найбольш арыгінальна, «асучасніць» твор. Вольнаму — воля, як кажуць, і пайшлі, пабеглі па паперы словы. Перад чытачом ужо не Пашка, а нейкі суперхлопец. У яго што ні слова, то нешта паказное, за кожным жэстам імкненне здзівіць сваёй «непаўторнасцю», «арыгінальнасцю».

«Пашка памяркоўны, не курыць. Нічога сабе хлопец, не жанаты... А тут жаніцца сама час, дзеўку прыгледзеў, спраўную, у целе, якразростам, не вельмі задумлівая, і, мабыць, не крутлівая, не гарадская. Як ні павярні, дзеўка што трэба — касірша з канечнага прыпынку «Бесядзь».

---

В. Хліманаў. «Арыядніна нітка». Апавяданні. На рускай мове. Выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1972.



# ПЕСНЯ НАБЫВАЕ НОВЫЯ КРЫЛЫ

*НА КАНЦЭРЦЕ СВЯТЛАНЫ ДАНІЛЮК*

АМАТАРАЎ музыкі на вакальна - сімфанічным вечары ў філармоніі 7 кастрычніка зацікавіў рэпертуар першага аддзялення. Сама мажлівасць выканання беларускай народнай песні такім, на жаль, яшчэ рэдкім для нас спалучэннем голасу і сімфанічнага аркестра, — ужо арыгінальная з'ява ў нашым музычным жыцці. Такі ансамбль лічыцца больш прыдатным для «акадэмічных» твораў. А тут раптам—сімфанічны аркестр і... «Чаму ж мне не пець...».

Таму, можа, здавалася, нечага не хапае ў гучанні першай песні. Вобраз беседнай маладзіцы атрымліваўся невыразны: у аркестроўцы слаба выяўляліся настроі, матывы самага разгару застолля.

...А можа само з'яўленне вясковай кабеты «шакіравала» залу, настроеную на акадэмічны лад?

Нібы ўлічыўшы рэакцыю слухачоў, народная артыстка рэспублікі Святлана Данілюк адразу ж паказвае сваю гераіню з другога боку. Гучыць лірычны спеў. Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР пад кіраўніцтвам Ю. Яфімава нібы малюе пейзажны фон.

А ў полі вярба,
пад вярбой вада...

Здаецца, вось - вось мы пачуем голас чмяля ў самотнай цішыні...

Зала не магла не паверыць вакальна - сімфанічнай мініяцюры, натуральная туга ішла ад сэрца спявачкі — і апладысменты вынеслі прысуд «за» адразу ж пасля другой песні. Цяпер хацелася падтрымаць настрой, створаны гэтым цікавым спалучэннем спеву і музыкі, чуць тыя ж напевы, што абудзілі сэрца, узнавіць створаныя вобразы, перажываць іх.

Такое хваляванне прыйшло з невядомай для большасці з нас песняй. «Любіліся, кахаліся, як галубкі ў стрэсе, а цяпер рассталіся, як ягадкі ў лесе», — даводзіла жывое слова сваёй душы да спачувальнага слухача шчырая, але нешчаслівая дзеўчына, і яно ўспрымалася маладымі як свежы боль, старэйшымі — як былое, але незабыўнае. Святлана Данілюк па-артыстычнаму горача прыняўшы разам з кампазітатарам саму ідэю стасавання «да часу і да месца» беларускай народнай песні ідзе далей, на працягу канцэрта агортвае нас цеплынёю пачуццяў і майстэрства. Падтрымліваючы настрой, аркестр выразна даносіць («Каціласся чорна галка...») нават зухаваты галоп панскага каня вакол сялянскай дзеўчыны.

Строга аберагаючы фальклорны дух, выконвае спявачка вясельную «У страсе кукавала зязюля», потым — «Ой, палын мой, палыночак», узбагачаныя магчымасцямі голасу і аркестра, прыязна сустрэтыя прысутнымі на вечары. Нават «акадэмік» народнай песні, народны артыст СССР Г. Цітовіч б е з у м о ў н а прымае гэту новую і своеасаблівую з'яву ў музычным жыцці:

— Добра, добра... Такая цікавая з'ява патрабуе, вядома, вывучэння, але з першага разу можна сказаць: добра! Захавана рытміка; добрая і аркестроўка, зробленая Э. Фарберавым; цудоўнае выкананне...

Генадзь Іванавіч гаворыць далей, што гэта — яшчэ адзін крок у асэнсаванні, у новай якасці, фальклорнага багацця; удалы творчы пошук кампазітара - дэбютанта; заслужаны поспех самой спявачкі...

Адным словам «п а д а б а е ц ц а!»—так ацэньваюць канцэрт і прафесіяналы, і аматары спеваў, і слухачы -пачаткоўцы. Мабыць, гэтае слова часцей за ўсё і чулася ў той вечар у фас філарманічнай залы.

Жанры народнай песні разнастайныя, і таму, натуральна, з трывогаю сочаць знаўцы і «скарбовыя» фальклору за далейшым лёсам невычэрпнай спадчыны вякоў. Кожная спроба карыстаць з гэтай крыніцы зацікаўлена прымаецца ўсімі, хто шануе духоўныя набыткі працаўніка. Высокая патрабавальнасць да кожнай апрацоўкі і выканання народных песень сведчыць аб павазе і клопаце грамадскасці да такой важнай справы, як папулярызацыя і распрацоўка вусна - паэтычнай і песеннай спадчыны.

Звыклым стала гаварыць і пісаць пра глыбіню і багацце адценняў у народных спевах, але паспрабуйце нават тую песню, што зусім няблага гучыць у вуснах пасрэднага аматара, выканаць такім дасканалым калектывам, як, да прыкладу, вялікі сімфанічны аркестр...

І тым не менш мы маем магчымасць пачуць тыя адценні, што ўвабрала ў сябе беларуская народная песня, складзеная з тысячы галасоў, настрояў, трактовак за доўгія гады яе бытавання. Іх яшчэ нямнога, па-майстэрску **праспяваных** Дзяржаўным сімфанічным аркестрам БССР, але яны запамінаюцца, бо гучалі яны галасам скрыпак, габоя, віяланчэлі, якія дапаўнялі, адцянялі, аздаблялі голас народнай артысткі БССР Святланы Данілюк. Яе мецца-сапрана стала ў канцэрце 7 кастрычніка «ўсяго адным з інструментаў аркестра», — як ацаніла сваю ролю сама Святлана Піліпаўна.

«Гэта мой самы выдатны і прыгожы інструмент», — жартуе Юрый Яфімаў, галоўны дырыжор сімфанічнага аркестра. Яго добры настрой пасля цяжкай шматгадзіннай працы на рэпетыцыях можна было смела прыняць як прадказанне поспеху.

І вось сведчанні гэтага поспеху, уражанні з канцэрта.

Радавы С. Гацко, родам з Омска:

— Вельмі спадабалася «А ў полі вярба».

Яго таварыш з Новасібірска:

— Гэта, і яшчэ перадапошняя... («У страсе кукавала зязюля»).

Калі гаварыць увогуле пра вечар, то нельга не зазначыць дасканаласць выканання класічных рэчаў, асабліва «Як дух Лауры» Ліста і «Элегію» Маснэ. Але найбольш гаворкі было пра беларускія песні. Іх ацэнка дае права гаварыць пра поспех кампазітарскай работы Эдуарда Фарберава. Сімфанічныя мініяцюры ўдаліся яму дастаткова, каб рыхтаваць разгорнуты цыкл «Беларускія песні» на аснове яшчэ некранутых музыкамі запісаў, добра вядомых гэтаму маладому кампазітару і вопытнаму аркестроўшчыку.

Сцяпан Міско, кандыдат мастацтвазнаўства:

— Багатая аркестроўка, удала падабраныя песні. Фарбераў здольны, яму трэба смялей браць незацяганыя песні ўсіх жанраў, падбіраць цыклы: вясельныя, жніўныя або па настроі гучання — з розных жанраў. І, вядома, трэба ацаніць талент Святланы Данілюк, вакалісткі і сааўтара. А калі гаварыць пра ўвесь канцэрт, — як заўсёды дасканалая Тамара Міянсарава, буйнейшая наша піяністка-канцэртмайстар.

Творчае супрацоўніцтва названых вышэй майстроў (яно дало канцэрту выдатна выкананы народнай артысткай раманс З. Левінай у аркестроўцы Э. Фарберава, поўны пачуццяў «Святы востраў») асабліва праявілася ў сумеснай працы над народнымі песнямі. Іх праграма, выкананне даюць усе падставы меркаваць, што беларускія народныя песні, апрацаваныя для голасу з сімфанічным аркестрам, могуць быць добрай школай фармавання густу творчай моладзі, крыніцай хараства для аматараў музыкі, эстэтычнымі ўрокамі ў сістэме камуністычнага выхавання.

**Уладзімір ІСКРЫК.**

# ПАЛЫМЯНАМУ РЭВАЛЮЦЫЯНЕРУ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

**Чарговая «серада» ў Саюзе кампазітараў БССР была прысвечана 90-годдзю з дня нараджэння Георгія Дзімітрава. Прысутнічалі не толькі музыканты, а і студэнты кансерваторыі і рэспубліканскай школы ЦК ЛКСМБ.**

**Кандыдат мастацтвазнаўства Б. Смольскі расказаў пра жыццёвы і рэвалюцыйны шлях палымянага ленінца, былога генеральнага сакратара Камінтэрна Георгія Дзімітрава. Выдатны сын балгарскага народа пакінуў каштоўныя працы ў галіне марксісцка-ленінскай эстэтыкі.**

**Канцэртнае аддзяленне вечара адкрыў квартэт Саюза кампазітараў БССР у складзе Ю. Гершовіча, П. Валадарскага, В. Баткінай і М. Шчарбакова, які выканаў чатыры мініяцюры Марына Галемінава.**

**Заслужаная артыстка БССР І. Шыкунова вельмі ўдала выканала два рамансы: «Хачу я быць вясной» Веселіна Стаянава і «Табе мой друг» Г. Златава-Чэркіна.**

**Потым з «Элегіяй» для віяланчэлі і фартэпіяна Сашо Папова выступіў саліст аркестра Беларускага тэлебачання і радыё Л. Рубанчык. Яго змяніў саліст Беларускага тэатра оперы і балета А. Бокаў, які праспяваў лірычны раманс Хрыстава Тодарава «Ціхі вечар» і песню Ю. Семянякі, прысвечаную балгара-савецкай дружбе «Пунсовыя макі».**

**Вялікае ўражанне на слухачоў зрабіла выступленне заслужанага артыста рэспублікі Л. Гарэліка, які з сапраўдным майстэрствам выканаў складаныя творы балгарскіх кампазітараў для скрыпкі і фартэпіяна: «Сеўдану» Г. Златава-Чэркіна, «Гумарэску» Панча Уладзігерава і «Хора» з сюіты Хаджыева.**

**Парадавала слухачоў добрым голасам і музыкальнасцю салістка Беларускага тэлебачання і радыё Г. Ваяводзіна. У яе выкананні прагучалі на балгарскай мове «Балада пра Георгія Дзімітрава» Любаміра Піпкава і раманс Івана Марынава «На яве і ў сне».**

**Поспеху салістаў садзейнічала заслужаная артыстка БССР Т. Міянсарава, якая акампаніравала ўсім спевакам і музыкантам.**

**Вечар закончыўся выкананнем у механічным запісе фіналу Другой сімфоніі Любаміра Піпкава.**

**Слухачы цёпла ўспрынялі праграму першай «серады» сезона 1972/73 гг.**

# *КАНЦЭРТЫ, ЯКІЯ ЗАЎСЁДЫ З НАМІ...*

РЫХТУЮЧЫСЯ да юбілею СССР, фірма «Мелодыя» падрыхтавала серыю грампласцінак «Мастацтва народаў СССР». Гэта своеасаблівая анталогія адлюстроўвае яркую самабытнасць і росквіт музычнага мастацтва народаў саюзных і аўтаномных рэспублік нашай краіны. Усяго выдадзена 15 грампласцінак, прысвечаных саюзным рэспублікам, 20 грампласцінак будуць змяшчаць справаздачу аб развіцці музычнай культуры аўтаномных рэспублік.

Ужо выйшла пласцінка «Спявае Беларусь», выкананая ў монафанічным варыянце гучання. На грампласцінцы запісана чатыры народныя песні, танец «Лявоніха» і дванаццаць арыгінальных песень кампазітараў І. Лучанка, М. Пятрэнкі, І. Кузняцова, М. Шуміліна, Ю. Семянякі і Ул. Алоўнікава. Семнаццаць выканаўцаў знаёмяць нас з яркай праграмай канцэрта.

Пасля песні І. Лучанка «Ён нарадзіўся вясной» Дзяржаўны народны хор БССР пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Г. Цітовіча выконваюць народныя песні «Рэчанька» і «Як пагнала бабуленька куранятак пасці» і песні сучасных аўтараў-прафесіяналаў.

Зачароўвае народная песня на словы М. Багдановіча «Зорка Венера» ў выкананні салістаў Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР Г. Ламакінай і М. Шуманскага.

А з якім дзівосным размахам спявае славуты Чырванасцяжны імя А. Аляксандрава ансамбль песні і танца Савецкай Арміі песню Д. Смольскага «Абеліскі»! Саліст ансамбля Н. Грэсь спявае яе шырока, без рыторыкі, усхвалявана і шчыра.

Тонка «прачытаны» тры песні Ул. Алоўнікава. Задуменная лірыка «Лясной песні» ў выкананні мужчынскага квартэта Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР набывае арыгінальныя фарбы. Слухаючы гэты твор, здаецца, што ён напісаны з разлікам на гэты квартэт. З магутным дыханнем хору Беларускага радыё, які спявае песню «Аб Брэсцкай крэпасці» энергічна, свежа і натхнёна, льецца расказ пра нязломную волю і мужнасць савецкага народа. І як працяг патрыятычнага маналогу гучыць «Песня аб Мінску» ў выкананні А. Сухіна.

Сярод іншых нумароў праграмы дыска запамінаюцца выступленні ансамбля «Песняры» («Ой, рана на Йвана», «Ты мне вясною прыснілася» Ю. Семянякі), цымбалістаў В. Бурковіча, І. Навіцкага і баяніста В. Казючыца («Лявоніха»).

Беларускі музычны сувенір серыі «Мастацтва народаў СССР» прынясе вялікую радасць у кожны дом, дзе любяць і цэняць музыку. Праўда, хочацца папракнуць безыменных аўтараў - складальнікаў беларускіх старонак анталогіі. Праграмы ўзбекскай, эстонскай, армянскай, літоўскай і іншых такіх жа грампласцінак-канцэртаў выглядаюць больш разнастайнымі. Літоўцы і эстонцы, складаючы свае праграмы, уключалі ў іх узоры сімфанічнай і кантатна-араторыяльнай творчасці кампазітараў. А ў праграмах узбекскай, бурацкай, армянскай і чувашскай пласцінак шырока пададзены ўзоры оперна-балетнага мастацтва. Такое складанне праграм значна пашырае маштабы знаёмства з музыкай братніх народаў.

З выхадам усяго цыкла музычнай анталогіі ўзбагацяцца фанатэкі аматараў. Апрача таго, шырокая творчая грамадскасць, уключаючы прафесійных і самадзейных кампазітараў і музыкантаў - выканаўцаў, атрымаюць каштоўныя ўзоры народнага меласу, яго пераламлення ў творчасці кампазітараў розных стыляў і кірункаў у савецкай музыцы.

**Ул. ЯФРЭМАЎ.**

## СЕМІНАР ТВОРЧАЙ МОЛАДЗІ БРЭСТЧЫНЫ

Брэсцкі абком камсамола правёў семінар маладых паэтаў, празаікаў, мастакоў і кампазітараў вобласці. Перад удзельнікамі семінара выступіў сакратар абкома ЛКСМБ В. Гетманчук. Дацэнт кафедры беларускай літаратуры педагагічнага інстытута імя А. Пушкіна А. Майсейчык расказаў пра задачы маладых паэтаў і празаікаў у святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС. Кіраўнік секцыі жывапісу Саюза мастакоў БССР І. Стасевіч выступіў з характарыстыкай творчасці маладых беларускіх мастакоў. Педагог Брэсцкага музычнага вучылішча Р. Цвірко-Гадзіцкая выступіла з цікавай лекцыяй «Аб ролі музыкі ў ідэйным выхаванні моладзі».

Удзельнікі семінара сустрэліся з моладдзю горада над Бугам. Маладыя аўтары прачыталі свае творы. На практычных занятках у секцыях аналізавалася творчасць маладых. Секцыі ўзначальвалі беларускі паэт А. Вярцінскі, старшыня літаб'яднання пры газеце «Зара» У. Калеснік, старшыня абласнога аддзялення Саюза мастакоў БССР П. Данелія, кіраўнік народнага ансамбля электрамеханічнага завода «Брэстаўчанка» С. Любчук, літкансультант «Зары» М. Рудкоўскі і іншыя.

**Л. ГЛУШКО,**
удзельнік семінара.

## ПАМЯЦЬ АБ ЗЕМЛЯКУ




Паэт-рэвалюцыянер Адам Гурыновіч нарадзіўся ў былым фальварку Кавалькі на Мядзельшчыне. Памяць аб сваім земляку свята захоўваюць жыхары Слабадскога сельсавета. У мясцовай бібліятэцы афармлены цікавы стэнд, прысвечаны жыццю і творчасці пісьменніка. Партрэт яго намаляваў старшыня выканкома сельсавета Д. Жыхар.

Ілюстрацыі з мінуўшчыны беларускага селяніна, а таксама вытрымкі з твораў А. Гурыновіча падабрала загадчыца бібліятэкі Л. Навіцкая. Сумесна з вучнямі нядаўна праведзены тэматычны вечар.

**М. ЧАРНЯЎСКІ.**

## СЯБРУ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Нядаўна ў Ленінградзе на могілках імя 9-га Студзеня адбылося адкрыццё надмагільнага помніка пісьменніку-перакладчыку, шчыраму сябру Беларусі Паўлу Кабзарэўскаму. Аўтар помніка народны мастак Беларусі З. Азгур.

На адкрыцці прысутнічалі Ус. Раждзественскі, М. Браўн, М. Камісарава, П. Жур і іншыя ленінградскія пісьменнікі.

## ВЫПРАЎЛЕННЕ ПАМЫЛКІ

У мінулым нумары газеты ў артыкуле Ю. Бібілы «Так пачыналася...» па віне рэдакцыі дапушчана памылка. Янка Купала прыслаў ліст аўтару артыкула не ў **час вайны,** як гаворыцца ў тэксце, а **перад вайной** — 10 красавіка 1941 года.

Дапушчаны недагляд і ў подпісу пад здымкам. Трэба чытаць: «...другі злева—М. Улашчык... шостая справа— аўтар успамінаў Ю. Бібіла...»

ДЭКАДА КНІГІ ГДР

# ПАЎТЫСЯЧЫ НАЗВАЎ...

Літаратура Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі... У нас добра ведаюць Вілі Брэдэля і Бертольда Брэхта, Штэфана Гейма і Іаганеса Бехера, Арнольда Цвейга і Анну Зэгерс. На беларускай мове выдадзены зборнік сучаснай паэзіі ГДР, запіскі вядомага антыфашыста Гуга Барса «Мы сталі камуністамі», аповесць лужыцка-сербскага празаіка Юрыя Брэзана «Крыста» і іншыя кнігі.

Пра гэта гаварыў у сваім выступленні на ўрачыстым адкрыцці дэкады кнігі ГДР у Мінску старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю Р. Канавалаў.

На адкрыцці дэкады выступілі генеральны консул ГДР у Мінску Л. Волерт і беларускі пісьменнік А. Зарыцкі.

Сябры з ГДР прыслалі для кнігарні «Дружба» больш паўтысячы назваў кніг. Сярод іх—пяцітомнікі Шылера і Гейнэ, дзесяцітомнік Лесінга, творы сучасных паэтаў і празаікаў ГДР.

У той жа дзень у Мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна адкрылася выстаўка кніг ГДР. На адкрыццё выстаўкі прыбылі генеральны консул ГДР у Мінску Л. Волерт, консул Э. Корн, віцэ-консул П. Левандоўскі.

У сваім выступленні консул Э. Корн сказаў, што пісьменнікі ГДР зараз рыхтуюцца да святкавання 50-годдзя ўтварэння СССР. Вывучэнне савецкай літаратуры набыло велізарны размах — творы больш за 300 аўтараў, выдадзеных у ГДР, прадстаўляюць 23 нацыянальныя літаратуры Савецкага Саюза.

Выстаўкі кніг ГДР праводзяцца ў Брэсце, Гродна, Магілёве і іншых гарадах Беларусі.



На выстаўцы кніг ГДР, якая адкрыта ў памяшканні Таварыства дружбы і культурных сувязей з зарубежнымі краінамі.

Гельмут БАЙЭРЛЬ

## ЛІСТ ДА В'ЕТНАМСКІХ СЯБРОЎ

Вы — у В'етнаме:
змагаецеся і
паміраеце...
Але мы таксама з В'етнамам...
Кажыце — дадзім усё
неабходнае,
і ўсё роўна гэтага будзе мала,
бо над намі неба без бомбаў,
бо над намі зямля без пастак
і вакол без атруты паветра,
нас вязуць цягнікі і машыны,
абслугоўваюць аўтаматы,
абуджае нас весняя раніца —
вішні ў квецені белай,
у зялёнай аздобе палі:
ураджай
паспявае
для сейбітаў.
Вы змагаецеся
і паміраеце,
кажыце — зробім усё
неабходнае,
каб В'етнам
не палілі пажары,
каб блакітнае неба было
без бомбаў,
каб быў адпачынак спакойны,
раніца — сонечнай
і мірнаю праца,
каб цвілі вішні
і зяленелі палі, а ўраджай
паспяваў для сейбітаў.

Фолькер БРАЎН

## ДА ГРАМАДЗЯН ГДР

Не дазваляйце пятрэсць
будынкам:
іх падмурак рассыплецца.
Вуліцам
не дазваляйце валяцца
ў брудзе.
У рыштаваннях новабудоўляў
нараджаецца час наш —
не абмініце,
сілу рук сваіх не марнуйце...
Не дазваляйце і шматку неба
бледнай немаччу
плыць на захад:
апярэжце вясёлкавым поясам,
месяцам запаліце
неба —
агучанае кірмашамі
і дэманстрацыямі,
звонам электраліній
і спавітымі галасамі
дзіцячых калясак...
Вы, муляр і тэхнолаг,
ператтварайце неба,
каб ніводны шматок
не паплыў на захад
слабым і голым.
Хай неба плыве на захад
чыстае, як дыханне лёгкіх
і кроў аорты.
Хай яно памагае
праганяць забабоны,
і будзіць сонных,
а ім —
знайсці сябе
і свабоду.

Гельмут ПРАЙСЛЕР

## РОЗДУМ ПРА БУДУЧЫНЮ

Калі закаханыя некалі
будуць гуляць бестурботна
там, дзе цяпер граніца;

і пойдуць да гарызонту
над ціхай ракой, якая
болей не раздзяляе;

і злучаць школьныя сцежкі,
калі нечакана спаткаюць
надпіс на скрыжаванні;

калі на ім прачытаюць,
што мы тут са зброяй ляжалі,
адстойвалі мір —

тады яны, пэўна,
пазнаюць, што мы адсталі
каханне, сады і свабоду —
мільёнам!

З нямецкай пераклаў
Мікола НАВІЦКІ.

Антон АЛЕШКА

# СУСЕДЗІ

*Беларускі пісьменнік Антон Алешка за гады сваёй творчай працы выдаў некалькі кніг прозы. Сярод іх творы пра лётчыкаў: аповесці «Іх першых вітае сонца», раман «Над намі мільён вышыні», «Дарога без слядоў». Часта выступаў ён у друку і з апавяданнямі. Нядаўна ў архіве нябожчыка знойдзена гумарыстычная навела, якая раней нідзе не друкавалася. Мяркуем, што яна зацікавіць чытачоў «Трасянкі».*

СЯРГЕЙ СЯРГЕЕВІЧ БІЧ сядзеў за сталом у сваім рабочым кабінеце і, як калісьці казаў Кузьма Чорны, пяром разварушваў радкі рукапісу. Непатрэбнае выкрэсліваў, у многіх мясцінах збоку рабіў дадаткі і так уцягнуўся ў работу, што нічога навакольнага не прыкмячаў, жыў трыццаць пятым раздзелам рамана «На далоні—шар зямлі».

Дайшоў да апошняй старонкі, закрэсліў і яе. Устаючы з-за стала, заўважыў выпадкова, што пальцы левай рукі, якія трымалі аркуш, дробна трымцелі. Пісьменнік насцярожыўся.

— Вось яна, творчасць!—паківаў галавой Сяргей Сяргеевіч.—Усю энергію забрала, узвінціла нервы да апошняга градусу...

Ён адкінуўся на спінку крэсла, заплюшчыў вочы.

«Чатыры гады напружанай працы,—гаманіў бязгучна.—Чатыры гады выключана з уласнага жыцця. Гэты час я быў з героямі рамана—і радаваўся і плакаў разам з імі».

Разгарачаная галава паволі астывала, спакваля ўлягаліся душэўныя буры, і ён неяк нечакана адчуў стому.

Сяргей Сяргеевіч агледзеў рабочы кабінет, асветлены роўным матавым святлом двух таршэраў, прыслухаўся. Ні ў пакоі зяця, ні ў пакоі жонкі, ні ў пакоі дачкі-школьніцы, ні ў гасцінай—ні шораху, ні гуку.

«Усе разышліся. Аднаго пакінулі,—падумаў ён.—І пахваліцца няма каму, што закончыў раман».

Сяргей Сяргеевіч устаў, пстрыкнуў выключальнікам. Спыніўся перад вялізным люстэркам. На яго ўставіўся мужчына сярэдняга росту з выразным круглым брушкам, у зялёнай балгарскай куртцы. Твар гладкі, з цёмнымі ад ценю вачніцамі. Круглыя карыя вочы свяціліся фасфарычным святлом.

Лоб высокі, з залысінамі, якія бралі ўжо ў клешчы чубок каштанавай шавялюры, каб дзесьці замкнуцца на самай макаўцы і, напэўна, пасля наступнага рамана заблішчэць раскошнай лысінай.

«Старэем, Сяргей Сяргеевіч»,— правёў далонню па барадзе і глянуў на вялізны партрэт Льва Талстога ў дубовай рамцы.

— Баця, магу далажыць,—сказаў Сяргей Сяргеевіч класіку,—што работу над раманам скончыў і цяпер сабраўся на паветра.

Працуючы над раманам, выходзіў усе гэтыя месяцы гуляць вельмі позна, каб ні з кім са знаёмых не сустракацца, не размагнічвацца, каб аставацца адзін на адзін са сваімі героямі.

Сёння іншая справа. Яшчэ не позна, і можна пагуляць.

Прайшоўшы сюд-туд некалькі разоў, павярнуў у парк Чалюскінцаў. Што называецца, разгуляўся, і ў яго нечакана з'явілася патрэба пагаварыць з кім-небудзь, скажам, падзяліцца думкамі пра далейшы лёс рамана.

Безумоўна, першым чынам ён занясе яго ў «Полымя». Там у дзве рукі схопяць і, не закрэсліўшы ніводнай коскі, надрукуюць. Потым трэба будзе пайсці ў выдавецтва «Беларусь». Адразу ж нядрэнна прасунуць раман у «Дружбу народов», пасля ў «Советский писатель». Трэба не спазніцца і ў «Роман-газету». Тэатр Янкі Купалы зусім недалёка, і там ёсць хлопцы, якія зробяць п'есу. Давядзецца скарыстаць тэлебачанне. Даць такі фільм, каб пазайздросціла Польскае тэлебачанне. Дзесяць серый! І пантаміму... Ніхто з нашых яшчэ не карыстаўся гэтым відам дасягнення апошніх дзён—камбінацыі святла і ценю. А опера? Ну, гэта пасля ўсяго...

Абышоў два разы парк і нікога са знаёмых не спаткаў.

«Нашы пісьменнікі, як сычы, дома сядзяць і строчаць,—хаяў братоў па пяру.—А што б сустрэцца з сябрам, пагаварыць, пахадзіць».

Добра нагуляўшыся, павярнуў дамоў і каля свайго пад'езду ўбачыў таксі.

«Нехта наш прыехаў з гулянкі»,—паспеў падумаць, як дзверцы ляснулі і таксі паімчалася па вуліцы.

Сяргей Сяргеевіч убачыў на тратуары ладную фігуру свайго суседа Сяргея Трахімавіча Гурыновіча.

— Адкуль, цёзка?

— А-а...—азірнуўся Сяргей Трахімавіч і пацісну Бічову руку.—З калгаса. З калгаса еду. На радзіме быў. Набраўся, брат, жыццёвага матэрыялу вось так,—чыркнуў пальцам недзе вышэй вачэй.

— Гэта здорава.

— А як у цябе справы, Сяргей Сяргеевіч? Усё ціснеш раман?

— Сёння скончыў. Учыгунеў, але скончыў. Як табе знаходка: учыгунеў?

— То дазволь парадавацца з табой,— пацісну руку Сяргея Сяргеевіча і, узыходзячы на ганак, сказаў:—Я ж трынаццаць раздзелаў рамана чытаў. Канечне, ты ўсяго не дасі, але мог бы даць яшчэ некалькі раздзелаў пачытаць.

— Магу зараз жа даць увесь. Апошні раздзел заўтра пераб'ю на машынцы.

— З задавальненнем прачытаю.—Сяргей Трафімавіч прыпыніўся на пляцоўцы Сяргея Сяргеевіча.—Буду першым чытачом і першым крытыкам.

— Зойдзем да мяне.

— Позна...

— То пачакай хвілінку.

Праз мінуту Сяргей Сяргеевіч вынес ладную папку.

— Хоць і многа, але хутка прачытаю,—Сяргей Трахімавіч падкруціў вусы і, узяўшы падпаху раман, падаўся на пяты паверх.

І стрымаў слова. На пяты дзень, ідучы ў Саюз пісьменнікаў, узяў рукапіс і як толькі сышоў на трэцюю пляцоўку, са свае кватэры выйшаў Сяргей Сяргеевіч. Павіталіся. Сяргей Трахімавіч аддаў рукапіс і доўга трос руку калегі.

— Дзякуй, цёзка. Дзякуй! Парадаваў...

Сяргей Сяргеевіч пакінуў рукапіс дома, і яны да тралейбуснага прыпынку ішлі разам. Ведаючы, што Сяргей Сяргеевіч прызнае толькі тых, хто хваліць яго творы, Сяргей Трахімавіч не захацеў быць яго ворагам.

— Даўно не чытаў такой манументальнай прозы. Ты сам, напэўна, не ўяўляеш, якую велічную карціну намаляваў. У ёй так і прагляджваецца рука мастака, якога смела можна паставіць поруч з Талстым. Канечне, Львом. А героі? Асабліва Марына. Гэта беларуская Анна Карэніна. Пра другіх герояў не буду гаварыць. Яны не менш каларытныя.

Зайшоўшы ў тралейбус, Сяргей Сяргеевіч спыніўся ў куточку на задняй пляцоўцы і, слухаючы пахвальбу, ад задавальнення ледзь прыкметна пацепваў плечукамі. Сябры гаварылі ўсю дарогу. На ганку Саюза пісьменнікаў Сяргей Трахімавіч скончыў разбор рамана.

— Жадаю новых творчых поспехаў!

Пасля сходу Сяргей Трахімавіч дамоў вярнуўся позна.

— Званіў Біч,—сказала жонка.

— Даўно?

— Некалькі разоў цябе пытаў.

І як на тое зазваніў тэлефон.

— На дроце—слухаю!

— Гэта я—твой цёзка,—сказаў Сяргей Сяргеевіч.—Хачу ўдакладніць некаторыя палажэнні. Аўтару вельмі важна пачуць шчырае слова суседа, таварыша. Я зразумеў, што табе раман у цэлым спадабаўся...

— Канечне...

— А скажы, як ацэньваеш дваццаць першы раздзел?

— Дваццаць першы?

— Раніца. Сяўба. Празрыстае паветра, ралля... І на гэтым фоне з меху сыплюцца залацістыя зярняты. Памятаеш?

— Успомніў. Як жа! Гэта шэдэўр! Мантэнь!

— Дзякуй, сусед.

Сяргей Сяргеевіч паклаў трубку.

Не паспеў Сяргей Трахімавіч павячэраць, як тэлефон зазваніў зноў.

— Ало!

— Гэта зноў я... Скажы, брат, як табе спадабаўся дваццаць другі раздзел? Гэта... памятаеш... у вячэрнім тумане за аўсамі спяваюць перапёлкі: «Піць-падом! Піць-падом!»

— Цудоўна! Я прачытаў гэты раздзел і ў сорак пяць гадоў зноў перажыў солодыч маленства. Суцэльная лірыка!

Сяргей Трахімавіч позна забавіўся за рабочым сталом і, калі змарыў сон, лёг спаць. Праз нейкую гадзіну пабудзіў рэзкі званок.

— Браце, гэта я,—гукнуў Сяргей Сяргеевіч.—Хачу спытаць, як ты ўспрыняў сцэну раздзелу?

— А-а...— сонным голасам працягнуў Сяргей Трахімавіч.—Ты хочаш спытаць...

— Рукі бацькі... Рукі на хамуце... вузлаватыя, спрацавныя. Але!

— Ну, гэта на ўзроўні пэндзля Рэмбранта.

— А калі даць гэта на пантаміму? Во будзе сіла!

Сяргей Сяргеевіч паклаў трубку, а Сяргей Трахімавіч лёг, заплюшчыў вочы, але заснуць не мог. Качаўся з боку на бок і толькі нешта пад раніцу крышку задрамаў. Зноў зазваніў тэлефон.

— Ало!

— Добрай раніцы! Гэта я—сусед,—бадзёра гаманіў Сяргей Сяргеевіч,—скажы, калі ласка, што яшчэ трэба дадаць у трыццаты раздзел, каб ён зазвінеў, як новая манета?

— У трыццаты?

— Але. Гэта жніво. Камбайн плыве, як карабель, у жоўтым моры пшаніцы. Успомніў?

— Там ёсць сонца?

— Ёсць.

— Шырэй апішы ўзыход сонца. Тады ўвесь раздзел заззяе як мае быць.

«Глядзі, халера,—падумаў Сяргей Трахімавіч,—як клапоціцца аб кожнай мастацкай дэталі. Далёка збіраецца пайсці».

Да абеду Сяргей Сяргеевіч званіў яшчэ тры разы. Выказваў свае меркаванні, раіўся, хваляваўся.

У час абеду, калі Сяргей Трахімавіч падчапіў відэльцам пахучую адбіўную, весела зазваніў тэлефон.

— Гэта я,—звонка пачаў Сяргей Сяргеевіч.— Як ты ацэньваеш прыход Міхаля на вячоркі? У канцы трыццаць чацвёртага раздзела. Здорава?

— Гэта самае слабае месца ў рамане.

На тым канцы провада пачуўся гук, падобны на ціхі кашаль у кулак, потым наогул стала ціха.

— Ало!—гукнуў Сяргей Трахімавіч.—Ты чуеш?

У трубцы пачуўся ўздых, пасля ледзь чутны голас.

— Кажаш, слабае месца?

— Шчыра табе кажу. Перарабі яго...

Зноў цішыня.

— Ало! Чуеш?

— То можа, скажаш, што мая знаходка слабая: учыгунеў?—акрэпшым голасам спытаў Сяргей Сяргеевіч.—Як?

— Сапраўды знаходка, — усміхнуўся Сяргей Трахімавіч.—І знайшоў ты гэта ў Купрына... Так· Ало!

Аднак адказу не было.

. . . . . . . . . . . .

Сяргей Сяргеевіч не званіў Сяргею Трахімавічу ні пад вечар, ні вечарам, ні на другі дзень.

Мінула паўгода—не звоніць.

Люты, 1967 г.

## Лёгкім штрыхам

*Сяброўскія шаржы З. ПАЎЛОЎСКАГА*



Аркадзь МАУЗОН.



Анатоль АНІКЕЙЧЫК.

Аўдоля КОРЧ

# У ПАЛЁЦЕ

Расцвіла на рэчцы
лотаць,
Хіліцца лаза,
Каб умеў я спрытна
лётаць,
Так, як страказа...
Станіслаў Шушкевіч.

**Расцвіла на рэчцы лотаць.**
**Дзівіцца казёл.**
**Каб умеў я спрытна лётаць,**
**Так, як страказёл!**
**Паляцеў бы у прасторы,**
**Разагрэўшы тлушч,**
**Я б зароў у два маторы,**
**Як маёвы хрушч.**
**Я б жыўцом—да атмасферы,**
**Як аэраплан.**
**Прашыбу любыя дзверы**
**З ходу — на таран.**
**Свінні, куры і вароны,**
**Вочы высалуп!**
**Як урэжуся з разгону**
**У дубовы слуп...**

Павел ШЫБУТ

# З ПАДСЛУХАНАГА

*— У вашым апавяданні многа вады, — заўважае рэдактар пачынаючаму аўтару.*

*— Няпраўда! Гэта — пот!*

□

*— Непрыгожы дом ты намаляваў, сынок!*

*— Ці ж я вінаваты, што дом стары.*

□

*— Чаго ты, Міхасік, цыбулю ў цукар макаеш?*

*— Дык яна ж горкая!*

□

*— Перад 8 Сакавіка ў тваім дзённіку было ажно тры пяцёркі, а зараз прынёс двойку? — пытае маці ў сына.*

*— Падарункі ж дораць толькі па святах.*

Запісаў П. Шыбут.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР Минск

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04 аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33 24 62 аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19 бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.





Індэкс 63856 АТ 02994.